Нацыянальнай Бібліятэцы Рэспублікі Беларусь ахвяроўваю.
2. чэрвеня 1993 г.
+ Мітрапаліт Мікалай

# КАРОТКІ БЕЛАРУСКІ ТЭРМІНАЛАГІЧНЫ ЦАРКОЎНЫ СЛОЎНІК



**Склаў слоўнік**
**мітрапаліт Мікалай**

**Выданьне БАПЦ**

**Таронта, Канада 1992 г.**

# Сказ пра слоўнік

У пераходзе на беларускую мову царкоўных багаслужбаў ды наогул у адміністрацыі нашай царквы, дзеля адсутнасьці тэрміналягічнага царкоўнага слоўніка, мы сустракаем вялікія цяж-касьці. Каб аблегчыць, мы выдаем гэты Кароткі беларускі тэрміналягічны царкоўны слоўнік.

Ці былі спробы раней, апрацоўкі беларускага царкоўнага слоўніка, для нас ня ведама і мы ня хочам забіраць пяршынства, ня маючы на гэта дадзеных, але, калі не памыляемся, нам думаецца, што гэты слоўнік зьяўляецца першым у нашай багаведнай гісторыі.

Ня гледзячы на недахопы яго, як некаторыя могуць думаць, але мы спадзяёмся, што ён будзе хоць ў малой меры дапаможным.

складальнік

# А

**АБА,** (Ар.) - бацька, айцец.

**АББА** (Ар.) - тое, што **АБА.**

**АБЕДНІЦА** (Бел.) - служба, якая ў вымушаных выпадках заступае іншыя службы. Пераважна літургію. У царкоўна-славянскай мове завецца «Ізобразітельны» у множным ліку, што азначае заміж.

**АБЛІВАНЬНЕ** (Бел.) - хрышчаньне праз абліваньне сьвятой вадой галавы хрышчанага дзіцяці.

**АБРАД** (Ц.-сл.) - правілы ўзору паводле якіх, служацца ўсе набажэнствы.

**АБРАЗ** (Бел.) - малюнак асобы ці краявіду.

**АБРОК** (Бел.) - абяцаная перад самім сабою ахвяра ў прадметах у дар сьвятыні. (*Сьцяпан аброкся 'прыабецаў сам сабе', што ён будзе даваць два пуды жыта на сьвятыню кожны год на Каляды).*

**АБ'ЯЎЛЕНЬНЕ, АДКРЫЦЬЦЁ** (Бел.) - 27 кніга Новага Запавету. Апошняя кніга Сьвятога Пісьма.

**АВА** (Ар.) - тое, што **АБА.**

**АВВА** (Ар.) - тое, што **АБА.**

**АГАЛОШАНЫ** (Бел.) - той, хто рыхтуецца да хросту. Асоба, якая выявіла сваю волю быць хрысьціянінам і праходзіць навучаньне праваслаўнай веры, Сьвятога Пісьма, царкоўныя правілы, літургію й пра царкву.

**АГАПА** (Гр.) - любасьць. Супольная рэлігійная бяседа, якая практыкавалася пасьля сьв. літургіі напачатку хрысьціянства. Супольны стол.

**АГНЕЦ** (Ц.-сл.) - чатырохкутны сьвяты хлеб выразаны з проскуры і які мае напіс зьверху. **ІС** уверсе, **ХР** зьнізу, **НІ** зьлева й **КА** зправа. Агнец у пераносным значэньні прадстаўляе Хрыста, які прыгатаўляецца на праскамідыі і асьвячаецца на Сьв. Літургіі, для прычашчаньня вернікаў.

**АГУЛЬНАЯ МІНЕЯ** - тое, што **ЗВЫЧАЙНАЯ МІНЕЯ.**

**АДБЫВАНЬНЕ ПАКУТЫ** (Бел.) - адбываньне кары за грахі. Асоба можа сама налажыць на сябе кару за выкананы грэх і дабравольна адбывае пакуты, альбо пакуты наложаны сьвятаром за грахі пры споведзі.

**АДДАНЬНЕ** (Ц.-сл.) - апошні дзень **ПАСЬВЯТА.**

**АДЗІГІТРЫЯ** (Гр.) - правадырка ў дарозе, падчас вандроўкі.

**АДКРЫЦЬЦЁ** (Бел.) - тое, што **АБ'ЯЎЛЕНЬНЕ.**

**АДЛУЧАНЫ** (Бел.) - адкінутая асоба.

**АДЛУЧАНЫ АД ПАРАФІІ** (Бел.) - асоба, якая была парафіянінам моцна правінілася супроць парафіі й царкоўным судом прызнана вінаватай і кіруючым архірэем адлучана ад парафіі.

**АДЛУЧАНЫ АД СЬВЯТОГА ПРЫЧАСЬЦЯ** (Бел.) - асоба, акая была ахрышчана й правінілася й царкоўным судом была прызнана вінаватай і кіраўнічы архірэй забараніў ёй прычашчацца Сьвятых Таінстваў.

**АДЛУЧАНЫ АД ЦАРКВЫ** (Бел.) - асоба, якая належала да царквы, потым пачала шырыць ерась супрацьв царквы й царкоўным судом была прызнана вінаватай і пастановай сабору япіскапаў была адлучана ад царквы.



**АДЛУЧЭНЬНЕ** (бел.) - дзея, паводле якой адыймаюцца царкоўныя прывілеі й правы асобе, якая належала да царквы, але царкоўным судом прызнана вінаватай.

**АДМІНІСТРАТАР** - асоба, пастаўленая альбо назначаная Саборам Япіскапаў кіраваць япархіяй у адсутнасьці кіраўнічага япіскапа.

**АДПУСКНЫ БАГАРОДЗІЧНЫ** - глядзі **БАГАРОДЗІЧАН** # 2.

**АДПУШЧЭНЬНЕ ГРАХОЎ** - тое самае, што **ВЫБАЧЭНЬНЕ ГРАХОЎ, ПРАБАЧЭНЬНЕ ГРАХОЎ.**

**АДСТУПНІК** (Бел.) - асоба, якая адыйшла, адступілася ад свае праўдзівае, правільнае праваслаўнае веры. Глядзі **АПОСТАТА.**

**АДСТУПНІЦТВА** (Бел.) - дзея пераходу ахрышчанай у праваслаўнай веры асобы у іншую не праваслаўную веру. Глядзі **АПАСТАЗЫЯ.**

**АДШЧЭПНІК** (бел.) - асоба, якая адыйшла ад свае праўдзівае й правілнае праваслаўнае веры. Глядзі **АПОСТАТА.**

**АДШЧЭПНІЦТВА** - адыход асобы ад праўдзівай і правільнай праваслаўнай веры. Глядзі **АПАСТАЗЫЯ.**

**АЖЫЎ** (Бел.) - тое самае, што **УВАСКРОС.**

**АЙЦЕЦ ПРАВАСЛАЎНЫ** (Бел.) - сьв. Апанас, яго завуць так, бо ён перамог ерась Арыя.

**АЙЦЫ ЦАРКВЫ** (Бел.) - настаўнікі, вучыцелі і абаронцы праўдзівай і правільнай праваслаўнай веры на пачатку хрысьціянства. Яны надалі веры сьвятасьці і яны закончылі тлумачэньне праваслаўя.

**АЙЧЫХА** (Бел.) - гэтак называюць жонку сьвятара.

**АКАДЭМІЯ** - найвышэйшая навуковая ўстанова.

**АКАДЭМІЯ БАГАВЕДЫ** - найвышэйшая навуковая інстытуцыя навучаньня пра Бога й веру у Яго.

**АКАТЫСТ** (Гр.) - азначае, не дазволена сядзецць. Маленьне да сьвятога, якое складаецца з 12 кандакоў і гэтулькі-ж ікасаў - канон, якое можа адбывацца ў сьвятыні ці ў хаце верніка.

**АКСІОС** (Гр.) - Выгалас, які выгалошваецца пры пад-стрыжэньні, ці пры рукапалажэньні ў дыяканы, сьвятары ці япіскапы, альбо пры надаваньні нагарод вернікам. **ВАРТЫ, ГОДНЫ.**

**АКТОІХ** (Гр.) - глядзі **ВАСЬМІСЬПЕЎНІК.**

**АЛЕЕПАМАЗАНЬНЕ** (Бел.) - адно зь сямі сьв. таінстваў, якое выконваецца толькі адзін раз у жыцьці над асобай і пераважна перад сьмерцяй.

**АЛІЛУЯ** (Габр.) - хваліце Госпада Бога.

**АЛІЛУЯР** - верш з псальма, які чытаецца ці сьпяваецца на алілуя пасьля прачытаньня апостала.

**АЛТАР** (Л.) - частка сьвятыні за іканастасам, дзе стаіць трон (прастол) і ахвярнік.

**АМАФОР** (Гр.) - плечаносьнік, адна зь сямі частак архірэйскай багаслужбовай вопраткі, што накладаецца архірэю на плечы. Ён сымбалізуе заблудзіўшую авечку.

**АМБОН** (Гр.) - падвышэньне, месца зь якога сьвятар кажа казань у сьвятыні.

**АМІН** (Габр.) - запраўды так, так ёсьць.

**АНАЛОЙ** (Гр.) - столік для чытаньня Дабравесьці, альбо для іншага маленьня, ці на абразы.

**АНАТАМА** (Гр.) - пракляцьце, адлучэньне ад царквы.

**АНЁЛ** (Гр.) - пасланец, весьнік.



**АНЁЛ АХОЎНІК** - анёл, які назначаецца Богам кожнаму пры хросьце, для абароны душы ад злыдуха.

**АНКІРСКІ МЯСЦОВЫ САБОР** - які адбыўся ў 314 г. і на ім прысутнічала 18 япіскапаў, якія выпрацавалі й прынялі 25 правілаў.

**АНТЫДАР** (Гр.) - заміж нагароды. Частка хлеба, што застаецца па прыгатаўленьні Агнца на праскамідыі й раздаецца вернікам па заканчэньні Сьв. Літургіі.

**АНТЫМІНС** (Гр.) - заміж стала. Кусок палатна ў выглядзе плашчаніцы, у якім зашыты мошчы сьвятога, асьвячаны япіскапам і на якім служыцца Сьв. Літургія.

**АНТЫФОН** 1, 2, 3, (Гр.) - выбраныя вершы з псальмаў, якія сьпяваюцца пасьля першых трох екцяньняў на літургіі.

**АНТЫХРЫСТ** (Гр.) - вораг Хрыста, хто распаўсюджвае ману, злобу й нянавісьць супроць Хрыста.

**АНТЫЯХІЙСКІ МЯСЦОВЫ САБОР** - які адбыўся ў 341 г. і на ім прысутнічала 90 япіскапаў, яны выпрацавалі й прынялі 25 правілаў.

**АПАЛАГЕТЫКА** - навуковая абарона й тлумачэньне хрысьціянскага праваслаўнага догмату веры.

**АПАСТАЗЫЯ** (Гр.) - адступніцтва, адшчэпніцтва ад праўдзівай праваслаўнай веры, ужо ахрышчанай асобы.

**АПАСТАТА** (Гр.) - адступнік, адшчэпнік. Ахрышчана асоба, што адышла ад праваслаўнай веры.

**АПОКРЫФА** (Гр.) - схованае, кніжкі Сьв. Пісьма, якія ня ўключаныя да праўных кніг, а зьмешчаны ў бібліі й царквою дазволена чытаць іх.

**АПОСТАЛ** (Гр.) -

1. Пасланец;
2. Хрыстовы вучань;

3. Кніга запісу апостальскіх дзеяў і апостальскіх лістоў;

4. Чытаньне апостальскіх дзеяў і апостальскіх лістоў на багаслужбах.

**АПОСТАЛЬСКАЕ ПЕРАЕМСТВА** - пераемства, гэта рукапалажэньне сьвятарства, якое бесьперарыўна выводзіцца ад саміх сьвятых апосталаў, праз хіратонію япіскапамі.

**АПОСТАЛЬСКІЯ ПРАВІЛЫ** (Бел) - збор 85 царкоўных правілаў, якія былі ўложаны, як думаюць, апосталамі.

**АПОСТАТА** - глядзі **СЬХІЗМАТЫК**.

**АПОШНІ СУД** - пры канцы гэтага сьвету Госпад наш Ісус Хрыстос прыйдзе другі раз на зямлю й будзе судзіць жывых і памерлых.

**АПЯКУН** - асоб мужчынскага роду пастаўлена апякавацца царкоўнай маемасьцю. За часамі Вялікага Княства Літоўскага царкоўныя братчыкі выбіралі людзей даглядаць царкоўную маемасьць. У цяперашні час гэтым займаецца парафіяльная рада. Раней ён называўся **ПОПЕЧЫТЕЛЬ.**

**АРАР** (Гр.) - тое самае, што **ПОЯС.**

**АРЛЕЦ** - круглы, прыблізна поў метра дыяметра матарыял, на якім намалёваны ці вышыты арол, і на ім становіцца архірэй на багаслужбах.

**АРТОС** (Гр.) - круглы бахонак хлеба з абразом уваскрасеньня Хрыстовага, які ўжо асьвячаны кладзецца на аналоі перад абразом Ісуса Хрыста і стаіць там праз увесь вялікодны тыдзень

**АРХАНЁЛ** - вышэйшы ступень чынам, санам, анёл.

**АРХІДЫЯКАН** - вышэйшы ступень санам дыякана, пратадыякан.

**АРХІДЫЯЦЭЗЫЯ** - глядзі **АРХІЯПАРХІЯ.**



**АРХІМАНДРЫТ** (Гр.) - тытул манаха, які надаецца яму Ахірэем пры назначэньні яго намесьнікам архірэя кіраўнічым манастыра.

**АРХІМАНДРЫЦКАЯ МАНЬЦІЯ** - чорная з крыжалямі маньція.

**АРХІПАСТЫР** (Гр.) - старшы па чыну япіскап.

**АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ** - ліст агульнага зьместу, кіраўнічага япіскапа да вернікаў, альбо саборнае пасланьне япіскапату.

**АРХІПАСТЫРСКАЕ РАСПАРАДЖЭНЬНЕ** - глядзі **АРХІПАСТЫРСКІ ЗАГАД.**

**АРХІПАСТЫРСКІ ЗАГАД** - выдадзены агульны загад кіраўнічым архірэем сьвятарству й вернікам у япархіі ці асабісты сьвятару, дзеля выкананьня справы.

**АРХІПАСТЫРСКІ ЛІСТ** - ліст, пасланьне, альбо загад выдадзены архірэем япархіі сьвятарству ці вернікам.

**АРХІПРАТАДЫЯКАН** - найвышэйшы сан нагарода дыякану.

**АРХІПРАТАПРАСЬВІЦЕР** - найвышэйшая нагарода ярэю.

**АРХІРЭЙ** - вышэйшы ярэй, япіскап.

**АРХІРЭЙСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ** - тое самае, што **АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ.**

**АРХІРЭЙСКАЕ РАСПАРАДЖЭНЬНЕ** - тое самае, што **АРХІПАСТЫРСКАЕ РАСПАРАДЖЭНЬНЕ.**

**АРХІРЭЙСКІ ЗАГАД** - тое самае, што **АРХІПАСТЫРСКІ ЗАГАД.**

**АРХІРЭЙСКІ ЛІСТ** - тое самае, што **АРХІПАСТЫРСКІ ЛІСТ.**

**АРХІРЭЙСКАЯ МАНЬЦІЯ** - архірэйская маньція можа быць сіняга, фіялетавага колераў, абшыта бел-чырвона-белай стужкай, пад шыяй з скрыжалямі.

**АРХІРЭЙСКІ ТРОН** - крэсла (катэдра), на якім архірэй сядзіць на багаслужбах.

**АРХІРЭЙСКІ ЧЫНОЎНІК** - кніга, якая месьціць у сабе багаслужэньні, і якія толькі архірэй мае права служыць.

**АРХІСТРАЦІГ** (Гр.) - ваенны начальнік, **ВАЯВОДА**.

**АРХІЯПАРХІЯ** - царкоўная тэрыторыя, якая месьціць у сабе некалькі япархій, якою кіруе архіяпіскап. І гэта пераважна ў патрыяршай царкве.

**АРХІЯПІСКАП** (Гр.) - старшы санам япіскап. Япіскап над япіскапамі. У грэцкай праваслаўнай Царкве архіяпіскап санам вышэйшы за мітрапаліта.

**АРЫЯНСТВА** - ерась, якую прапаведаваў Арый, сьвятар з Александрыі Егіпецкай.

**АРЭОЛ** (Лат. - aureolus) - пазалочаны, зьзяючы круг над галавою сьвятога.

**АСАННА** (Габр.) - памажы, ратуй, ахоўвай, дай шчасьце.

**АСІРАЦЕЛАЯ ЦАРКВА** - царква без япіскапа. Царква без начальства.

**АСІРАЦЕЛЫ** - які-колечы пасад, трон пазбаўлены кіраўнічага.

**АСЬВЯЧЭНЬНЕ** - маленьне, якім дабраславіцца асоба, асьвячваецца будынак і розныя рэчы для багаслужэньня ці рэлігійных абрадаў.

**АТЭІЗМ** - запярэчваньне існаваньня, быцьця Бога. Бязбожжа.

**АТЭІСТ** - асоба, якая адкідае існаваньне Бога. Бязбожнік.



**АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ЦАРКВА** - адміністрацыйна **НЕЗАЛЕЖНАЯ ЦАРКВА.**

**АЎТАКЕФАЛЬНЫ** (Гр.) - самакіраўнічы, незалежны.

**АЎТАНОМІЯ** - стан самакіраваньня не адрываючыся, і ў нейкай меры залежнай ад Маці Царквы.

**АФЕСКІ МЯСЦОВЫ САБОР** - глядзі **ТРЭЦІ ЎСЯЛЕНСКІ САБОР.**

**АХВЯРА** (Бел.) - прадмет альбо жывёла прынесена ў дар багам. Прынясеньне. Глядзі **АБРОК.**

**АХВЯРАВАНЬНЕ** - галоўная частка Сьвятой Літургіі, у якую ўваходзіць маленьне накліканьня Сьвятога Духа і асьвячэньне ахвяры. **ЕЎХАРЫСТЫЯ. ПРЫНЯСЕНЬНЕ.**

**АХВЯРНІК** - столік у алтары, на якім служыцца праскамідыя, першая частка Сьв. Літургіі.

**АХВЯРАСХОВІШЧА** - скрынка зроблена ў форме царквы, а ў сярэдзіну ставіцца меншая скрынка, у якую кладзецца сьв. ахвяра, асьвячаная для прычасьця хворых у госпіталі ці ўдома. А таксама перахоўваецца у ім асьвячаны Агнец для **РАНЕЙ АСЬВЯЧАНАЙ ЛІТЫРГІІ.** Ахвярасховішча заўсёды знаходзіцца на сьв. прастоле у алтары сьвятыні.

## Б

**БАГАВЕДА** (Бел.) - навука пра Бога. **БАГАСЛОЎЕ, ТЭАЛЁГІЯ.**

**БАГАЗЬНЕВАЖАНЬНЕ** - глядзі **БЛЯВУЗГАНЬНЕ.**

**БАГАЗЬЯЛЕНЬНЕ** - глядзі **ВАДОХРЫШЧА.**

**БАГАРОДЗІЦА** - гэтае слова адносіцца да найсьвяцейшай і ўвесь час Дзевы Марыі, бо Яна нарадзіла Бога Сына. Трэці Ўсяленскі Сабор прызнаў Яе **Багародзіцай.**

**БАГАРОДЗІЧАН** - трапар (песьня), у якой праслаўляецца Божая Маці, Багародзіца.

1. **БАГАРОДЗІЧАН ДАГМАЦІК** - які сьпяваецца на нядзельнай вячорні пасьля сьціхіраў на «Гукаю да Цябе Госпадзе».
2. **АДПУСКНЫ БАГАРОДЗІЧАН** - які сьпяваецца альбо чытаецца на кожны дзен тыдня васьмісьпеўніка, якія сьпяваюцца блізка да водпуска.
3. **НЯДЗЕЛЬНЫ АДПУСКНЫ БАГАРОДЗІЧАН** - бягародзічны, якія сьпяваюцца ў нядзелю.
4. **БАГАРОДЗІЧНЫ МАЛЫХ ВОДПУСКАЎ** - якія чыта-юцца ў дні тыдня, яны вельмі кароткія.
5. **БАГАРОДЗІЧНЫ ПАВОДЛЕ СЬПЕВУ СЬВЯТОГА** - якія сьпяваюцца на той самы сьпеў, што сьпяваюцца сьвятому сьціхіры папяраджаючыя багародзічан.
6. **БАГАРОДЗІЧАН ПЕРШЫ - ДАГМАЦІК** малой і вялікай вячорняў, якія знаходзяцца першымі з усіх багародзічных у гэтым багаслужэньні.
7. **БАГАРОДЗІЧНЫ ЧАСОЎ** - якія сьпяваюцца пасьля трапароў на часах.

**БАГАРОДЗІЧАН ПЕРШЫ** - глядзі **БАГАРОДЗІЧАН # 6.**

**БАГАРОДЗІЧНЫ МАЛЫХ ВОДПУСКАЎ** - глядзі **БАГАРОДЗІЧАН # 4.**

**БАГАРОДЗІЧНЫ ПАВОДЛЕ СЬПЕВУ СЬВЯТОГА** - глядзі **БАГАРОДЗІЧАН # 5.**

**БАГАРОДЗІЧНЫ ЧАСОЎ** - глядзі **БАГАРОДЗІЧАН # 7.**

**БАГАСЛОЎЕ** - глядзі **БАГАВЕДА.**



**БАГАСЛУЖБА** - усе маленьні, якія сьвятар прыносіць Богу

**БАЛДАХАН** - неба, навеса абапертая на чатырох стаўбох над сьвятым прастолам у алтары.

**БЕЗЗАКОНЬНЕ** - глядзі **БЯСПРАЎЕ.**

**БЕСПАЧАТНЫ** - адносіцца да Бога, Які ня мае пачатку, існуе вечна, ня маючы пачатку й канца.

**БЕЛАРУСКІ ПРАВАСЛАЎНЫ КРЫЖ** - шасьці канцовы крыж Сьв. Еўфрасіньні Вялікай, князёўні Полацкай.

**БЕС** - глядзі **ДЭМАН.**

**БЕСНОВАТЫЙ** - глядзі **ЗВАР'ЯЦЕЛЫ.**

**БЕСЬЦЯЛЕСНЫЯ ДУХІ** - тое самае, што анёлы.

**БІБЛІЯ** (Гр.), - збор сьвятых кнігаў; 39 Старога Запавету й 27 Новага Запавету. **СЬВЯТОЕ ПІСЬМО.**

**БІЗАНТЫЙСКІ** - абрад паводле якога адбываюцца багаслужбы ў Праваслаўнай Царкве, і які быў выпрацаваны грэцкай традыцыяй на працягу гадоў. **ЎСХОДНІ АБРАД**

**БІЗАНТЫЙСКІ СТЫЛЬ** - архітэктурная форма сьвятыняў, форма маляваньня сьвятых абразоў, які запачаткаваны ў Грэцыі.

**БЛАГ** - глядзі **ДОБРЫ.**

**БЛАГОВЕСТВОВАНІЕ** - глядзі **ДОБРАЕ ВЯШЧАНЬНЕ.**

**БЛАЖЭННЫ** - глядзі **НАЙПАЧАСЬНЕЙШЫ.**

**БЛАЖЭНЬНІ** - глядзі **ДАБРАШЧАСНЫЯ.**

**БЛАГАЧЫНІЕ** - у Расейскай Праваслаўнай Царкве япархія дзеліцца на благачыніі, якімі кіруе благачынны, назначаны япіскапам ярэй, пераважна ў сане пратаярэя.

**БЛАГАЧЫННЫ** - сьвятар, які ў Расейскай Праваслаўнай Царкве кіруе **БЛАГАЧЫНІЕМ.**

**БЛАГОДАТЬ** - глядзі **ЛАСКА.**

**БЛАГОСЛОВЕНІЕ** - глядзі **ДАБРАСЛАВЕНЬНЕ.**

**БЛІЖНІ** (Ц.-сл.) - родны, прыяцель, сусед.

**БЛЮЗЬНЕРСТВА** - зьневажаньне, ганьбаваньне Бога й сьвятых.

**БЛЯВУЗГАНЬНЕ** - зьневажаньне ўсяго сьвятога, блявузганьне на Бога, Царкву, на ўсё, што ёсьць сьвятое. **БОГАЗЬНЕВАЖАНЬНЕ.**

**БОГ** - Бесьцялесны, Вечны, Дасканалы, Нязьменны. Увесь час ёсьць, Уладар, Уседавольны, Усемагутны, Усеправедны, Усетворца, Усеўладарны, Усёбачучы, Усё прадбачыць, Усюды прысутны, Усядобры. Хто стварыў усё, што існуе зь нічога й кіруе сусьветам.

**БОГАЗЬНЕВАЖАНЬНЕ** - глядзі **БЛЯГУЗВАНЬНЕ.**

**БОГ АЙЦЕЦ** - першая асоба Сьв. Тройцы.

**БОГ ДУХ СЬВЯТЫ** - трэцяя асоба Сьв. Тройцы.

**БОГ СЫН** - другая асоба Сьв. Тройцы.

**БОЖАЕ ПРАДБАЧАНЬНЕ,** - апека, гаспадараваньне, кіраваньне. Гэтак завецца дзейнасьць сьвятой Божай волі. **ПРОМЫСЕЛ.**

**БОЖАЯ ВОЛЯ** - Божае прадбачаньне, Божы намер, Божае разуменьне, Божае хаценьне.

**БОЖАЯ МАЦІ** - увесь час Дзева Марыя, што нарадзіла Сына Божага, Ісуса Хрыста. Багародзіца. Усяленскі Сабор 431 г. аб'явіў яе Багародзіцай.

**БОЖЫ ПРОМЫСЕЛ** - тое самае, што **БОЖАЕ ПРАДБАЧАНЬНЕ.**

**БРАТЧЫК 1.** - асоба мужчынскага роду, навапрыняты ў манастыр, але яшчэ ня прыняў манастырскай прысягі. **ПАСЛУШНІК.**



**БРАТЧЫК 2.** - асоба мужчынскага роду, які даглядае парадку ў часе багаслужбаў. Ён належыць да царкоўнага брацтва. Як няма прыслужнікаў, ён прыслугоўвае сьвятару пры багаслужбах.

**БЯЗБОЖЖА** - тое самае, што **АТЭІЗМ.**

**БЯЗБОЖНІК** - тое самае, што **АТЭІСТ.**

**БЯСПРАЎЕ** - учынак, які пярэчыць Боскаму праву. **БЕЗЗАКОНЬНЕ.**

**БЯССРЭБРАНІК** - асоба, якая памагае бедным, паслугоўвае хворым бясплатна, дабраахвотна, альбо выконвае добрую справу для царквы, грамады.

## В

**ВАДОХРЫШЧА** - хрост Госпада нашага Ісуса Хрыста, сьвята 6 студзеня. **ЯРДАН, БАГАЗЬЯЎЛЕНЬНЕ.**

**ВАЙСКОВЫ СЬВЯТАР** - ярэй, які прызначаны абслугоўваць жаўнераў. **КАПЕЛЯН.**

**ВАЛАДАРСТВА** - дзяржава, парасейску царства.

**ВАРТЫ** - глядзі **АКСІОС.**

**ВАР'ЯВАЦЦА** - траціць розум, даходзіць да псыхічнага растрою. Расейскае - **БЕСНОВАТІСЯ.**

**ВАСЬМІСЬПЕЎНІК** - кніга, якая месьціць у сабе нядзельныя трапары, кандакі, багародзічны, сьціхіры, пракімены, якія сьпяваюцца на восем сьпеваў. **АКТОІХ.**

**ВАЯВОДА** - глядзі **АРХІСТРАЦІГ.**

**ВЕЕР** - металёвы круглы дыск, на якім адбіты від херувіма з шасьцьмі крыламі. Падчас Сьв. Літургіі паддыяканы

верамі махаюць над сьвятой ахвярай на сьвятым прастоле. **РАПІДА.**

**ВЕК РОЗУМУ** - час у жыцьці, калі асоба становіцца маральна адказной, звычайна ў сем гадоў. Ад гэтага часу асоба мае ісьці да споведзі, як дарослая асоба.

**ВЕЛІЧАНІЕ** (Ц.-сл.) - глядзі **ПРАСЛАЎЛЕНЬНЕ # 1.**

**ВЕРА** - дадзеная нам Богам сіла, праз якую мы спраможныя верыць у тое, што Бог адкрывае нам. Гэта ёсьць ужыцяўленьне спадзяванага, пераканаНьне й поўнасьць у рэчах, якіх мы ня бачым.

**ВЕРБНАЯ НЯДЗЕЛЯ** - глядзі **ВЕРБНІЦА.**

**ВЕРБНІЦА** - **УВАХОД ГОСПАДА НАШАГА ІСУСА ХРЫСТА У ЕРУСАЛІМ, ВЕРБНАЯ НЯДЗЕЛЯ.**

**ВЕРВІЦА** - пацеркі, нанізаны пацеркі на шнурок, альбо зь нітак зроблены, паводле якіх манахі й манашкі, што ня ўмеюць чытаць, моляцца.

**ВЕРНІК** - асоба, якая верыць у Бога й наялежыць да парафіі праваслаўнай Хрыстовай Царквы.

**ВЕРНЫ** - ахрышчана асоба, якая непахісна верыць і належыць да парафіі праваслаўнай Хрыстовай Царквы.

**ВЕЧНАЕ ЖЫЦЬЦЁ** - вечнае жыцьцё душы чалавека пасьля выхаду зь цела.

**ВЕЧНАСЬЦЬ** - ня маючае пачатку й канца. Бясконцае існаваньне. Адносіцца да Бога, Які існуе без пачатку й бяз канца.

**ВЕЧНЫ** - нямаючый пачатку й канца.

**ВОДАРНЫ** - тое самае, што **ДУХМЯНЫ.**

**ВОДПУСК** - дабраславеньне, якое сьвятар дае па заканчэньні кожнае багаслужбы, і якім сьвятар дазваляе вернікам выйсьці са сьвятыні і ісьці дадому.



**ВОДЫРНЫ** - тое самае, што **ДУХМЯНЫ.**

**ВОЗДЗЬВІЖЭНЬНЕ** (Расейскае) - глядзі **ПАДНЯЦЬЦЕ КРЫЖА.**

**ВОЗДУХ** (Р.) - глядзі **ВЯЛОКАЕ ПОКРЫВА.**

**ВУНІЯТ** - тое самае, што і **СХІЗМАТЫК.**

**ВУЧАНІКІ** - множны лік ад **ВУЧАНЬ.**

**ВУЧАНЬ** - гэта тыя семдзясят апосталаў, што пайшлі за Хрыстом (Лк. 10:1). **ВУЧАНІКІ.**

**ВЫБАЧЭНЬНЕ ГРАХОЎ** - выбачыць, звольніць ад грэху асобу сьвятаром пры споведзі.

**ВЫГАЛАС** - заканчэньне пасьля екцяньні ці ціхай малітвы, якое ярэй ці архірэй голасна выгалошвае.

**ВЫЗВАЛЕНЬНЕ** - глядзі **РАТУНАК.**

**ВЫЗВАЛІЦЕЛЬ** - глядзі **РАТАЎНІК.**

**ВЫЗНАЎЦА** - асоба, якая вызнае й верыць у Госпада Ісуса Хрыста, і за гэта яна перасьледавана. Асоба гнана іншавернікамі й бязбожнікамі. Расейскае - ісповеднік.

**ВЫКОНВАЮЧЫЙ АБАВЯЗКІ** - асоба, якая выконвае абавязкі, часова заступае, у адсутнасьці таго, хто пастаўлены выконваць. **ДЗЕЮЧЫЙ.** Расейскае - **МЕСТОБЛЮСТИТЕЛЬ.**

**ВЫНАС ПЛАШЧАНІЦЫ** - гэтак завецца вячорня, на якой выносіцца сьвятая плашчаніца на сярэдзіну сьвятыні й кладзецца на труну ў **ВЯЛІКУЮ ПЯТНІЦУ.**

**ВЫСАКАРОДНЫ** - тое самае, што **САМАВІТЫ.**

**ВЫСАКОСНЫ** - глядзі **ЗВЫЖДНЁВЫ.**

**ВЫСОКА ДАСТОЙНЫ** - тытул ярэя з вышэйшым санам. Расейскае - высокопрэподобны.

**ВЫСОКА ПАЧЭСНЫ** - тытул кіруючага архірэя япархіі. Расейскае - высокопрэосьвяшчэнны.

**ВЫСЬВЯТА** - глядзі **ВЫСЬВЯЧЭНЬНЕ** ў значэньні 2.

**ВЫСЬВЯЧЭНЬНЕ** - 1. глядзі **РУКАПАЛАЖЭНЬНЕ.** 2. высьвячэньне рэчаў для ўжываньня пры багаслужбах, могільнікаў, будынкаў і іншае.

**ВЫХАД** - на багаслужбах ёсьць два выхады; **МАЛЫ ВЫХАД** і **ВЯЛІКІ ВЫХАД.**

**ВЯЛІКАЕ ПОКРЫВА** (Бел.) - асьвячаны кусок палатна, якім накрываецца на верх малых покрываў на дыскасе й чары з прыгатоўленай ахвярай на праскамідыі. Расейскае - воздух.

**ВЯЛІКАПАКУТНІК** (Бел.) - вельмі мучаная асоба, што за веру ў Хрыста дазнала сьмерці.

**ВЯЛІКАЯ ВЯЧОРНЯ** - служыцца; 1. асобна ад ютрані: а) на конадні тых дзён, у якія на ютрані сьпяваецца **ПАЛІЯЛЕЙ**, ад нядзелі Тамаша да нядзелі мясапуснай; б) на Вялікдзень і ўвесь вялікодны тыдзень; в) на Госпадавыя двунадзясятыя сьвяты; г) перад Калядамі й Вадохрышчам, калі чытаюцца часы і ў вялікую пятніцу. 2. служыцца разам з ютраняй, паводле ўзору 70 разоў на год (гл. узор адзьдзел 6).

**ВЯЛІКАЯ ПАВЯЧОРНЯ** - багаслужба дзённага круга, якая служыцца пасьля **ВЯЧОРНІ.**

**ВЯЛІКАЯ ПАНІХІДА** - глядзі **ПАРАСТАС.**

**ВЯЛІКАЯ ПЯТНІЦА** - пятніца, што на тыдні пакутаў Хрыстовых.

**ВЯЛІКДЗЕНЬ** - дзень сьвята, у які хрысьціяне ўрачыста сьвяткуюць Хрыстова Ўваскрасеньне. Вялікдзень належыць да рухомых сьвятаў, і ёсьць сьвятам над сьвятамі, і ён не належыць да двунадзясятых сьвятаў. **УВАСКРАСЕНЬНЕ ХРЫСТОВАЕ.**



**ВЯЛІКІ АМАФОР** - ён даўгі, і мае чатыры крыжы, які адным канцом зьвешваецца зь плячэй архірэя сьпераду, а другі - ззаду.

**ВЯЛІКІ ВЫХАД** - на сьв. літургіі ярэй выходзіць зь сьвятой ахвярай праз паўночныя дзьверы і ўваходзіць у алтар праз райскія дзьверы ды ставіць ахвяру на сьвятым прастоле.

**ВЯЛІКІ ЗБОРНІК** - кніга, якая месьціць у сабе: 1) Усе багаслужбы дзённага круга; 2) Нядзельныя апосталы, пракімены, алілуяры, прычасьніка, і дзённыя пракімены, алілуяры й прычасьніка; 3) Сьв. літургію Яна Залатавуснага; 4) Нядзельнага васьмісьпеўніка, нядзельныя екзапасты-ляры і іхныя багародзічны, сьціхіры дабравесьця, катабасію на ўвесь год; 5) Агульную мінею сьвятым; 6) Адпускныя багародзічны, водпускі на кожны дзень тыдня.

**ВЯЛІКІ ЧАСАСЛОЎ** - кніга якая месьціць у сабе: 1) Ранішнія, дзённыя й вачорныя малітвы; 2) Багаслужбы дзённага круга для дзяка; 3) Выбраныя псальмы, якія чытаюцца на ютрані на двунадзясятых сьвятах і агульныя сьвятым; 4) Агульныя сьвятым трапары й кандакі на павячорні, нядзельныя трапары, багародзічны, іпакоі, кандакі васьмісьпеўніка й на кожны дзень тыдня, трапары й кандакі трыодзі; 5) Нядзельная багаслужба шостага сьпеву, агульная служба Госпаду нашаму Ісусу Хрысту; 6) Сьціхіры й каноны сьвятым: Найсьвяцейшай Багародзіцы, адзігітрыі, Бесьцялесным Анёлам, Яну Прадвесьніку, апосталам, сьв. Мікалаю, сьв. Крыжу, і ўсім сьвятым; 7) Акатыст Госпаду нашаму Ісусу Хрысту, Багародзіцы, малебен з канонамі да Багародзіцы, Анёлу Ахоўніку; 8) Правілы для сьвятароў, што маюць служыць сьв. літургію, правілы для невукаў і для

манахаў; 9) Правілы, як рыхтавацца прычасьнікам да сьв. прычасьця, малітвы па сьв. прычасьці й месяцаслоў.

**ВЯЛІКІ ЧАЦЬВЕР** - чацьвер, што на тыдні пакутаў Хрыстовых.

**ВЯЛІКОДНЫ ТЫДЗЕНЬ** - глядзі **СЬВЕТЛЫ ТЫДЗЕНЬ.**

**ВЯЛІЧАНЬНЕ** - глядзі **ПРАСЛАЎЛЕНЬНЕ.**

**ВЯНОК** - глядзі **КАРОНА.**

**ВЯШЧУНЫ** - глядзі **МУДРАЦЫ СА ЎСХОДУ.**

**ВЯЧОРНЯ** - вячорнае маленьне: **1. ШТАДЗЁННАЯ ВЯЧОРНЯ; 2. МАЛАЯ ВЯЧОРНЯ; 3. ВЯЛІКАЯ ВЯЧОРНЯ.**

## Г

**ГАБРЭЙ** - слова новатвор, якое заступае слова **ЖЫД.**

**ГАДАВЫ КРУГ БАГАСЛУЖБАЎ** - круг багаслужбаў, які пачынаецца на Вялікдзень і канчаецца ў сыботу перад Вялікаднем. Сюды ўваходзяць і ўсе рухомыя сьвяты. **ЛІТУРГІЧНЫ КРУГ БАГАСЛУЖБАЎ.**

**ГАЛГОТА** (Арм.) -названьне гары Кальварыя, на якой Госпад наш Ісус Хрыстос быў укрыжаваны.

**ГАНГАРСКІ МЯСЦОВЫ САБОР** - які адбыўся ў 340 г. і прысутнічала на ім 13 япіскапаў. На саборы выпрацавана й прынята 21 правіла.

**ГАНЬБАВАНЬНЕ** - глядзі **БЛЮЗЬНЕРСТВА** альбо **БЛЯВУЗГАНЬНЕ.**

**ГАРМОН** (Габр.) - слова, што азначае; сьвяты, неасяжны, высокі горны хрыбет. Гэтак называецца гара (Другапраўе 4:48, Нав. 13:11, Пс. 41:7 і 88:13, Пес. П. 4:8).



**ГОД** - адрэзак часу, які трывае 365 дзён, а кожны чацьверты - 366.

**ГОДНЫ** - глядзі **АКСІОС.**

**ГОЛУБ** - прыняты хрысьціянамі, як сымбаль Сьвятога Духа (Мк. 1:10).

**ГОРНАЕ МЕСЦА** - месца пры сьцяне за сьв. прстолам, дзе стаіць архірэйскі трон.

**ГОСПАД** (Ц.-сл.) - уладар, спадар, пан у дачыненьні да Бога й да Ісуса Хрыста.

**ГОСПАДАВА МАЛІТВА** - малітва «Ойча наш нябесны».

**ГРЫГАРЫЯНСКІ КАЛЯНДАР** - глядзі **НОВЫ КАЛЯНДАР.**

**ГРЭКА-КАТАЛІК** - тое самае, што **ВУНІЯТ.**

**ГРЭХ** - правіна, учынак, які робіць асобу вінаватай.

**ГЭТСАМАНСКІ САД** - сад, у якім Госпад наш Ісус Хрыстос маліўся й быў арыштаваны, як Юда выдаў Яго за трыццаць срэбрнякоў Габрэям.

## Д

**ДАБРАВЕСЬНІК** - асоба, што па натхненьню Сьвятога Духа, напісала Сьвятое Дабравесьце. Ёсьць чатыры дабравесьнікаў; сьв. ап. Ян, сьв. ап. Мацей, сьв. ап. Лукаш, сьв. ап. Марка.

**ДАБРАВЕСЬЦЕ** - добрая вестка. Першыя чатыры кнігі Новага Запавету.



**ДАБРАВЕШЧАНЬНЕ** - сьвята, якое сьвяткуецца 25 сакавіка. Добрая вестка, якую анёл абвесьціў Няйсьвяцейшай Марыі, што ад яе народзіцца Сын Божы.

**ДАБРАРОДНЫ** - тое самае, што **САМАВІТЫ.**

**ДАБРАСЛАВЕНЬНЕ** - **1.** абрад, праз які Царква асьвячае сьвятыню, магільнік, сьвечкі, хаты для жыльля, абразы сьвятых, пасуду для літургічнага ўжытку, літургічную вопратку, ваду, поле, яду і іншыя рэчы. Расейскае - БЛАГОСЛОВЕНІЕ.

**ДАБРАСЛАВЕНЬНЕ 2.** - глядзі **ВОДПУСК.**

**ДАБРАШЧАСНЫ** - нядзельныя песьні-трапары васьмісьпеўніка, якія сьпяваюцца зь вершамі са сьв. Дабравесьці на трэцім антыфоне на сьв. літургіі ў нядзелю, а таксама на абедніцы, калі яна служыцца ў нядзелю. Расейскае - БЛАЖЕННЫ.

**ДАГМАЦІК** - глядзі **БАГАРОДЗІЧАН** # 6.

**ДАМАВІНА** - тое самае, што **ТРУНА**

**ДАСТОЙНАПАКУТНІК** (Бел.) - манах пакутнік. Расейскае - прэподобномучэнік.

**ДАСТОЙНЫ** - тытул сьвятара. Расейскае - прэподобны.

**ДВУКІРЫ** (Гр.) - тое самае, што **ДВУСЬВЕЧНІК.**

**ДВУНАДЗЯСЯТЫЯ СЬВЯТЫ** - ёсьць дванаццаць вялікіх сьвятаў: **1.** Каляды 25 сьнежня; **2.** Вадохрышча 6 студзеня; **3.** Грамніцы 2 лютага; **4.** Зьмяненьне 6 жніўня; **5.** Падняцьце Крыжа 14 верасьня; **6.** Вербніца, рухомае сьвята; **7.** Ушэсьце, рухомае сьвята; **8.** Сёмуха, рухомае сьвята; **9.** Няйчысьцейшая 8 верасьня; **10.** Увядзеньне 21 лістапада; **11.** Дабравешчаньне 25 сакавіка; **12.** Усьпеньне 15 жніўня.

**ДВУРАЗОВЫ КАНСТАНТЫНОПАЛЬСКІ МЯСЦОВЫ САБОР** - сабор, які адбыўся ў сьвятыні сьв. Апосталаў у



Канстантынопалі ў 861 г. на якім прысутнічала 318 япіскапаў, яны выпрацавалі й прынялі 17 правілаў. Гэты сабор завецца двуразовым, бо два разы зьбіраўся для тых самых спраў. На пршым сходзе не маглі падпісаць дакуманты, бо былі перашкоды.

**ДВУСЬВЕЧНІК** (Бел.) - у двугняздовы падсьвечнік устаўлены дзьве сьвечкі, якімімі архірэй дабраславіць вернікаў, адным альбо разам з трысьвечнікам. **ДВУКІРЫ.**

**ДЗЕВА** - адносіцца да Багародзіцы, бо яна была дзеваю перад нараджэньнем Сына Божага й засталася дзеваю па нараджэньні, засталася непарушанаю. **УВЕСЬ ЧАС ДЗЕВА.**

**ДЗЕІ** - пятая кніга Новага Запавету, **ДЗЕІ АПОСТАЛАЎ.**

**ДЗЕІ АПОСТАЛАЎ** - глядзі **ДЗЕІ.**

**ДЗЕКАН** - **1.** сьвятар, кіраўнічы дзеканату; **2.** сьвятар, кіраўнічы катэдральнага сабору; **3.** кіраўнічы багаведнага факультэту.

**ДЗЕКАНАТ** - адміністрацыйная адзіка ў царкве, якая складаецца зь некалькі парафій.

**ДЗЕСЯЦЬ ЗАПАВЕТАЎ** - дзесяць маральных запа-ветаў дадзеных Богам Майсею на гары Сыён.

**ДЗЕЮЧЫЙ** - глядзі **ВЫКОНВАЮЧЫЙ АБАВЯЗКІ.**

**ДЗЁННЫ КРУГ БАГАСЛУЖБАЎ** - пачынаецца багаслужба вячорняй увечары й канчаецца дзявятым часам перад вячорняй, ужо пасьля паўдня.

**ДЗІДА** - глядзі **КАП'Ё.**

**ДЗЯВЯТНІК** (Бел.) - сьвята ў чацьвер дзявятага тыдня па Вялікадні. На гэтае сьвята жанчыны й маладыя дзяўчаты хадзілі на сенажаць, зьбіралі адпаведнае зельле, сушылі яго, і як трэба было падсьцілалі ў труну пад галаву памерламу.

Дзяўчаты зьбіралі зельле, што звалі чысьцік, для ўпрыгожваньня каравая.

**ДЗЯВЯТЫ ЧАС** (Бел.) - глядзі **ЧАС**.

**ДЗЯК** - сьпявар, кіраўнік хору.

**ДОБРАЕ ВЯШЧАНЬНЕ** - прыносіць, гаварыць добрую вестку. Расейскае - БЛАГОВЕСТВОВАНІЕ.

**ДОБРЫ** - спагадлівы, сардэчны, чулы да людзей. Расейскае - БЛАГ.

**ДРУГАЯ АСОБА СЬВЯТОЙ ТРОЙЦЫ** - Божы Сын, Госпад наш Ісус Хрыстос.

**ДРУГІ КАНСТАНТЫНОПАЛЬСКІ САБОР** - глядзі **ПЯТЫ ЎСЯЛЕНСКІ САБОР**.

**ДРУГІ ЎСЯЛЕНСКІ САБОР** - сабор, які адбыўся ў Канстантынопалі ў 381 г. і на ім прысутнічала 150 япіскапаў, яны выпрацавалі й прынялі 7 правілаў.

**ДУХМЯНАСЬЦІ** - прыемна пахучыя масьці.

**ДУХМЯНАСЬЦЬ** - водар, водыр, прыемны пах.

**ДУХМЯНЫ** - з моцным прыемным пахам, **ПАХУЧЫ, ВОДАРНЫ, ВОДЫРНЫ.**

**ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ** - глядзі **СЕНІ-НАРЫЯ**

**ДУША** - несьмяротная, нематарыяльная, духовая частка чалавека, якая зьяўляецца першаасноваю яго, і якая адрозьнівае чалавека ад жывёлы.

**Д. Х.** - да Хрыста.

**ДЫКІРЫ** (Гр.) - тое самае, што **ДВУСЬВЕЧНІК.**

**ДЫПТЫХ** (Гр.) - гэта дзьве таблiцы зроблены з паперы альбо зь пергамену й разам зложаныя, падобна да Майсеявых скрыжаляў. На адной запісаны імёны жывых, а на другой - памерлых. Памінальная кніга.



**ДЫСКАС** - круглая талерка на падстаўцы, на якую кладуцца часткі сьвятога хлеба падчас сьв. праскамідыі.

**ДЫЯКАН** (Гр.) - **1.** слуга, прыслужнік; **2.** першы ступень сьвятарства.

**ДЫЯКАНСКІ СЬЦІХАР** - адзеньне, якое дыякан апранае на багаслужбы. Дыяканскае адзеньне пашытае з таго самага матарыялу, што і ярэйскія рызы.

**ДЫЯКАНСКІЯ ДЗЬВЕРЫ** - дзьверы, што знаходзяцца з правага й зь левага бакоў у іканастасе. Яны так завуцца, бо праз іх уваходзяць і выходзяць дыяканы з алтара. **ПАЎДЗЁННЫЯ й ПАЎНОЧНЫЯ ДЗЬВЕРЫ.**

**ДЫЯСПОРА** (Гр.) - замежжа, вернікі паселеныя за межамі свае краіны.

**ДЫЯЦЭЗЫЯ** - тое самае, што і **ЯПАРХІЯ.**

**ДЭМАН** - тое самае, што і **Д'ЯБАЛ.**

**Д'ЯБАЛ** - злыдух, нячысьцік, чот, шатан. Расейскае - БЕС.

## Е

**ЕВАНГЕЛІСТЫ** - глядзі **ДАБРАВЕСЬНІК.**

**ЕВАНГЕЛЬЛЕ** - глядзі **ДАБРАВЕСЬЦЕ.**

**ЕКЦЯНЬНЯ** (Гр.) - збор просьбаў, прадоўжанае маленьне, якія адну па адной дыякан альбо ярэй выгалошвае на багаслужбах, а людзі па кожнай просьбе сьпяваюць, Госпадзе, памілуй.

**ЕПІТРАХІЛЬ** (Гр.) - частка багаслужбовага адзеньня ярэя і архірэя, якую носіцца на шыі і мае выгляд даўгога палотнішча з крыжыкамі, што зьвяшае сьпераду.

**ЕРАСЬ** - хвальшывае вучэньне пра Хрыста, пра праваслаўную веру, супрацьлежнае вучэньне праваслаўнай навуцы.

**ЕЎХАРЫСТЫЯ** (Гр.) - падзяка. Сьвятая Тайна, праз якую хлеб і віно ператвараецца ў цела й кроў Госпада нашага Ісуса Хрыста пры асьвячаньні на сьв. літургіі.

**ЕЎХАРЫСТЫЧНЫ КАНОН** - частка сьв. літургіі, якая адразу пасьля **«Вярую»** пачынаецца малітваю **«Належна й праведна...»** і канчаецца пасьля ахвяры на **«Дастойна й праведна...»**.

## Ж

**ЖАНОЧЫ МАНАСТЫР** - манастыр, у якім жывуць жанчыны, што прынялі манаства і якія прыраклі служыць Богу.

**ЖЫД** - глядзі **ГАБРЭЙ**.

**ЖЫЦЬЦЁ СЬВЯТЫХ** - кнігі, у якіх на кожны дзень году апісанае жыцьцё сьватога ці сьвя-тых, якіх імёны ўспамінаюцца ў той дзень. Пачынаючы зь першага студзеня й канчаючы 31 сьнежня.

**ЖЭЗЛ** - кій, завершаны двума галовамі падобнымі да зьмеяў, а пасярэдзіне іх крыж, што сымбалізуе ўладу япіскапа, як пастыра, над вернікамі яму даручаных.

**ЖЭРАБЕ** - умоўны знак, які выцягваецца наўгад, з шэрагу падобных прадметаў пры вызначэньні чарговасьці, абавязку ці права на што-небудзь. Выбіраньне на сьлепа.



## З

**ЗАБАРОНА** - забарона можа быць накладзена на верніка, прыймаць сьв. прычасьце, цалаваць крыж і іншыя царкоўныя прывілеі. Забароны здыймае япіскап альбо назначаны ім ярэй.

**ЗАГАД** - распараджэньне ўлады ці кіраўніка ўстановы. Загад можа быць вусны й пісьмовы. **РАСПАРАДЖЭНЬНЕ.**

**ЗАКАМЯНАВАНЫ** - Габрэі некалі забівалі на сьмерць, шпурляючы каменьне на ахвяру-пакутніка. Гэтак быў забіты Габрэямі хрысьціянскі першапакутнік Сьцяпан.

**ЗАКАНАДАЎСТВА** - глядзі **ПРАВАДАЎСТВА.**

**ЗАКОН** - глядзі **ПРАВА.**

**ЗАНУРВАНЬНЕ** - хрышчэньне праз занурваньне ў ваду хрышчанага дзіцяці.

**ЗАПАВЕДЗЬ** - абнародаваньне ў сьвятыні імёнаў тых, што маюць браць шлюб. Што маюць жаніцца.

**ЗАПАВЕТ** (Ц.-сл.) - права, закон, загад.

**ЗАПРАСТОЛЬНАЯ ІКОНА** - глядзі **ЗАПРАСТОЛЬНЫ АБРАЗ.**

**ЗАПРАСТОЛЬНЫ АБРАЗ** - абраз, які знаходзіцца за прастолам на сьцяне горнага месца. **ЗАПРАСТОЛЬНАЯ ІКОНА.**

**ЗАПРАСТОЛЬНЫ КРЫЖ** - крыж, які ўвесь час знаходзіцца за прастолам.

**ЗАПРЫЧАСЬНІК** - верш узяты з псальма, які сьпяваецца ў часе прычашчаньня сьвятарства й вернікаў.

**ЗАПУСКІ** - апошняя скаромная вачэра у апошні вечар перад постам. І пасьля гэтай вячэры праз валікі пост,

калядны пост, Пётравы і Ўсьпенскі пасты, праваслаўныя вернікі нічога скаромнага не ядуць.

**ЗАРУЧЫНЫ** - першая частка багаслужбы шлюбнага абраду.

**ЗАСЛОНА** - звычайна бывае палатняны матарыял чырвонага колеру, але можа быць і іншага колеру. Заслона, якой засланяюцца райскія дзьверы. **КАТАПЕТАСЬМА**

**ЗАХРЫСТЫЯ** - бачны ад алтара пакой, у які заходзіцца з алтара.

**ЗАЧАЛА** - глядзі **ПАЧАТАК.**

**ЗБАЎЛЕНЬНЕ** - глядзі **РАТУНАК.**

**ЗБАЎЦА** - глядзі **РАТАЎНІК.**

**ЗВАЛЬНЕНЬНЕ** - глядзі **РАТУНАК.**

**ЗВАЛЬНЕНЬНЕ АД ГРАХОЎ** - глядзі **ВЫБАЧЭНЬНЕ ГРАХОЎ.**

**ЗВАНАР** - асоба, якая звоніць, б'е ў набат, і гэткім спосабам склікае вернікаў на набажэнства.

**ЗВАНІЦА** - вежа пры сьвятыні, у версі якой, месьцяцца званы.

**ЗВАНЫ** - званы, якімі склікаюцца вернікі на багаслужбы.

**ЗВАР'ЯЦЕЛЫ** - якія страціў розум, псыхічна хворы. Расейскае - БЕСНОВАТЫЙ.

**ЗВОН** - адзіночны лік ад **ЗВАНЫ.**

**ЗВЫЖДНЁВЫ ГОД** (Бел.) - кожны чацьверты каляндарны год, які, замест 365, мае 366 дзён. **ВЫСАКОСНЫ ГОД.**

**ЗВЫЧАЙНАЯ МІНЕЯ** - кніга, якая месьціць у сабе агульныя службы сьвятым, для дзяка, для людзей.

**ЗВЫЧАЙНЫ КРЫЖ** - звычайны сярэбраны крыж, які носіць на грудзях ярэй.



**ЗЛО** - усё нядобрае, шкоднае, благое, ліха. Расейскае - ЛУКАВСТВО.

**ЗЛЫДУХ** - тое самае, што **Д'ЯБАЛ.**

**ЗОРКА** (Бел.) - адна часьць зь літургічнага судзьдзя, якая ставіцца на дыскасе над агнцам, каб покрыва не дакраналася да хлеба, калі накрываецца дыскас.

**ЗЬМЯНЕНЬНЕ** - зьмяненьне Госпада нашага Ісуса Хрыста на гары Табор, якое сьвяткуецца 6 жніўня. І яно належыць да двунадзясятых сьвятаў.

**ЗЬНЕВАЖАНЬНЕ** - глядзі **БЛЮЗЬНЕРСТВА** альбо **БЛЯВУЗГАНЬНЕ.**

**ЗЯМНЫ ПАКЛОН** - тады, калі вернік становіцца на калені і ў вялікай набажнасьці, схіляе галаву да самой падлогі, зямлі.

# І

**ІГУМЕН** (Гр.) - правадыр, начальнік, япіскапам назначаны манах кіраўнічым манастыра, па сану ніжэйшы за архімандрыта.

**ІКАНАСТАС** (Гр.) - сьцяна, месца для вешаньня альбо стаўленьня абразоў, якая аддзяляе алтар ад сярэдзіны сьвятыні.

**ІКОНА** (Гр.) - глядзі **АБРАЗ.**

**ІЛІТОН** (Гр.) - абгортка, кусок палатна, звычайна чырвонага колеру, якім акутваецца антымінс.

**ІМЯ** - асабісты назоў чалавека, які даецца яму пры нараджэньні. А хрысьціяне, пры хросьце, даюць імя аднаго

зь сьвятых. Пры поступе ў манахі чалавеку замяняецца хрышчанае імя новым, і прозьвішча ўжо не ўжываецца.

**ІМЯНІНЫ** - дзень анёла, імя сьвятога, якога дадзеная асоба носіць імя. У праваслаўных, асабістае штагадовае сьвята асобы, якое прыпадае на той дзень, калі царква адзначае памяць аднаіменнага сьвятога.

**ІПАКОЙ** (Гр.) - падпарадкаваньне, пакорнасьць паслушэнства, паслухмянасьць, уважнасьць. Гэтак завецца песьня, якая ў нядзелі й сьвяты заміж седальнаў і якую трэба уважна стоячы слухаць.

**ІРАМАНАХ** - манах, які ёсьць ярэем.

**ІРМАЛОГ** (Гр.) - кніга, якая месьціць у сабе выбраныя ірмасы з канонаў, што сьпяваюцца на ютрані.

**ІРМОС** (Гр.) - лучнасьць, першая сьціхіра песьні канона, зь якой злучаюцца трапары, што ідуць пасьля яе.

**ІСТАМБУЛ** - глядзі **КАНСТАНТЫНОПАЛЬ.**

**ІСУС** - імя Госпада нашага Ісуса Хрыста. **ЗБАЎЦА, РАТАЎНІК.**

**ІСУС ХРЫСТОС** - Сын Божы, другая асоба Сьвятой Тройцы роўная Айцу й Сьвятому Духу.

**ІС. ХР.** - гэтыя літары ставяцца на проскурку для праскамідыі.

## К

**КАДЗІЛА** - пасудзіна на ланцужках, у якой распальваецца вугаль ды сыпецца ладан для каджэньня.

**КАЗАЛЬНІК** - тое самае, што **АМБОН.**



**КАЗАНЬ** - прамова сьвятара рэлігійна-навучальнага характару. **ПРОПАВЕДЗЬ.**

**КАЗАНЬНІК** - асоба, якая кажа казань. **ПРАПАВЕДНІК.**

**КАЛЬВАРЫЯ** - глядзі **ГАЛГОТА.**

**КАЛЯДКІ** (Бел.) - калядныя песьні, якія сьпяваюцца на каляды.

**КАЛЯДНЫ ПОСТ** - саракадзённы пост, які пачынаецца 28 лістапада, у дзень сьв. Піліпа й трывае да самых Каляд. Гэты пост яшчэ завецца **ПІЛІПАЎКА.**

**КАЛЯДЫ** - глядзі **НАРАДЖЭНЬНЕ ХРЫСТОВАЕ.**

**КАЛЯНДАР** - даведнік гадавога адрэзку часу, які мае 365 дзён і падзелены на дванаццаць месяцаў. Месяцы студзень, сакавік, трвень, ліпень, жнівен, кастрычнік і сьнежань маюць па 31 дню. Красавік, чэрвен, верасень і лістапад маюць па 30 дзён, а люты мае 28 дзён, а кожны чацьверты год называецца **ЗВЫЖДНЁВЫ ГОД**, які мае 366 дзён, а люты ў гэтым годзе мае 29 дзён.

**КАЛЯНДАРНЫ КРУГ БАГАСЛУЖБАЎ** - па царкоўна-славянску называецца **МЕСЯЦЕСЛОЎ**, які пачынаецца зь першага верасьня. Але ў практыцы прынята пачынаць зь першага студзеня. Гэтак увялі, што й месячныя мінеі падаюцца зь перашага месяца году, студзеня.

**КАМІЛАЎКА** - шапка ў выглядзе цыліндра, плоская на версе: 1. фіялетава камілаўка, даецца як нагарода для ярэя; 2. чорную камілаўку носіць ўсё сьвятарства ў Грэцыі.

**КАНАНІЗАЦЫЯ** (Гр.) - абрад, якім памерлы хрысьціянін Праваслаўнай Царквы агалошваецца, вызнаецца, сьвятым.

**КАНАНІЧНАЯ ЦАРКВА** - глядзі **ПРАЎНАЯ ЦАРКВА.**

**КАНАНІЧНЫ** (Гр.) - праўны, царкоўна праўны, царкоўна важны. **ПРАЎНЫ.**

**КАНАНІЧНЫ ЯПІСКАП** - глядзі **ПРАЎНЫ ЯПІСКАП.**

**КАНДАК** (Гр.) - кароткі, кароткая пахвальная песьня, якая зьмяшчаецца ў канцы шостай песьні канона.

**КАНОН** (Гр.) - **1.** глядзі **ПРАВІЛА**; **2.** злучэньне песьняў паводле ўстаноўленага ўзору, які складаецца зь дзевяці песьняў. Кожная песьня складаецца зь ірмаса, трапароў і багародзічнага.

**КАНОНІК** - кніжка, якая месьціць у сабе выбраныя каноны, якія сьпяваюцца на ютрані.

**КАНСТАНТЫНОПАЛЬ** - бізантыскі горад захоплены Туркамі ў 1453 г., і пераназваны туркамі на **ІСТАМБУЛ.**

**КАНСТАНТЫНОПАЛЬСКІ МЯСЦОВЫ САБОР** - сабор, які адбыўся ў 394 г. у Канстантынопале, на ім прысутнічала 20 япіскапаў, у тым ліку Канстантынопальскі Патрыярх Нектар, Аляксандрыйскі Патрыярх Тэафіль і Антыяхійскі Патрыярх Флавій. Яны выпрацавалі й прынялі 1 правіла.

**КАНСІСТОРЫЯ** - выканаўчая ўстанова Царквы, якая ў БАПЦ выконвае канцалярыйную працу і яна падлягае **РАДЗЕ БАПЦ** у першую чаргу, і **САБОРУ ЯПІСКАПАЎ у другую чаргу.**

**КАПЕЛЯН** - прызначаны сьвятар для войска альбо для іншых службаў, але не ў парафіях. **ВАЙСКОВЫ СЬВЯТАР.**

**КАПЛІЦА** - **1.** малы будынак сьвятыні; **2.** бачны алтар у катэдральнай сьвятыні; **3.** адведзены пакой у будынку для маленьняў.

**КАП'Ё** - абапольна востры нож у форме трыкутніка, які ўжываецца для рэзаньня проскуры на праскамідыі. Яно прадстаўляе дзіду, якой прабілі бок Госпаду.

**КАРАЛЕЎСКІЯ ДЗЬВЕРЫ** - глядзі **РАЙСКІЯ ДЗЬВЕРЫ.**



**КАРАЛЕЎСКІЯ ЧАСЫ** - часы, якія чытаюцца на конадні Каляд, Вадохрышча. Калі гэтыя сьвяты прыпадаюць у недзелю ці панядзелак, тады часы чытаюцца ў папярэджаючую іх пятніцу, таксама каралеўскія часы чытаюцца ў вялікую пятніцу на тыдні пакутаў Хрыстовых. Некалі было гонарам чытаць часы, таму і каралі ці цары ахвотна чыталі ў гэтыя дні часы й таму й назва пайшла ад іх, каралеўскія часы.

**КАРОНА** - карона, якая зробленя зь металю, аздобленая, што накладаецца маладым на галовы пры шлюбу.

**КАРТАГЕНСКІ (255) МЯСЦОВЫ САБОР** - сабор адбыўся ў Картагене ў 255 г. і на ім прысутнічала 71 япіскап, яны выпрацавалі й прынялі 1 правіла. Пра гэты сабор падае **The RUDDER, Chicago, 1957,** бач. 488. Але **«Сімволы Веры»** Москва, 1886, і таксама **«Каноны»** Монтреал, 1974г. гэтага сабору, ані гэтага правіла не падаюць.

**КАРТАГЕНСКІ МЯСЦОВЫ САБОР** - сабор пачаўся ў 418 г. у Картагене, а закончыўся 424 г. на ім прысутнічала 217 япіскапаў, яны выпрацавалі й прынялі 147 правілаў.

**КАТАБАСІЯ** (Гр.) - выхад, сход. Ірмос, што сьпяваецца ў канцы дзявятай песьні канона, на які сьпевакі зыходзяцца на сярэдзіну сьвятыні сьпяваць.

**КАТАЛІК** - у сапраўднасьці азначае асобу, якая належыць да ўсяленскай праваслаўнай царквы, але ў сучасны час азначае асобу, якая належыць да рыма-каталіцкай царквы.

**КАТАЛІЦКІ** (Гр.) - у сапраднасьці азначае сусьветны, усяленскі. Але ў сучасны час азначае рыма-каталіцкі. Таму, да ўсяго, што зьвязана з Рыма-каталіцкай Царквой, каб пазбыцца непаразуменьня, трэба пісаць «Рыма-Каталік, Рыма-Каталіцкі» і г. д.

**КАТАПЕТАСЬМА (Гр.)** - **глядзі ЗАСЛОНА.**

**КАТАХІЗЫС** (Гр.) - першапачаткавы. Навучаньне дактрыны веры, догмаў, царкоўных правілаў.

**КАТЫЗМА** - адна з двацаці катызмаў. Кніга Старога Запавету **«ПСАЛТЫР»** падзеляна на двацаць часьці, катызмаў, якія чытаюцца на багаслужбах у адпаведны царквою прызначаны час, і у адпаведным месцы багаслужбы.

**КАТЭДРА** (Гр.) - крэсла, трон, што стаіць на падвышэньні, на якім сядзіць архірэй у часе багаслужбаў у багаслужбовым адзеньні.

**КАТЭДРАЛЬНЫ СЯБОР**, - сьвятыня, у якой праз увесь час знаходзіцца трон кіруючага архірэя.

**КАЎЧЭГ** - глядзі **АХВЯРАСХОВІШЧА**.

**КАЯНЬНЕ** - адно зь сямі Таінстваў, калі вернік шчыра вызнае (адкрывае) свае грахі (правіны, прызнаецца да да сваіх памылак) у прысутнасьці сьвятара. Тое самае, што споведзь.

**КЕЛЬЛЯ** - пакой у манастыры, у якой жыве манах.

**КЕЛЕЙНІК** - 1. манах, які жыве ў **КЕЛЬЛІ**, у пакоі. 2. манах, які пільнуе парадку ў кельлі архімандрыта ці япіскапа.

**КЕФАЛЬНЫ** (Гр.) - кіраўнічы, зьверхнік.

**КІРАЎНІЧЫ** - той, хто кіруе. **КІРАЎНІЧЫ АРХІРЭЙ**.

**КІРАЎНІЧЫ АРХІРЭЙ** - тое сама, што **КІРУЮЧЫЙ АРХІРЭЙ**

**КІРАЎНІЧЫ ПАРАФІІ** - сьвятар, што на просьбу парафіянаў, назначаны япіскапам на парафію, даглядацьза маральным і духовым жыцьцём парафіі. Расейскае - НАСТАЯЦЕЛЬ.

**КІРУЮЧЫ АРХІРЭЙ** - япіскап, які кіруе япархіяй. **КІРАЎНІЧЫ АРХІРЭЙ.**

**КІРУЮЧЫ ЯРЭЙ** - тое самае, што **КІРАЎНІЧЫ ПАРАФІІ.**



**КЛІРАС** - на салеі адведзенае месца пры правай сьцяне, якое завецца **ПРАВЫ КЛІРАС**, а пры левай - **ЛЕВЫ КЛІРАС**.

**КОЛЕР** - царквою няма вызначанага колеру на багаслужбовае адзеньне. Аднак у практыцы прынята, што на багаслужбах на Вялікдзень сьвятар апранаецца ў белыя рызы. Залатыя - на Калядзы; сінія - на Багародзічныя дні; зялёныя - на Сёмуху; фіялетавыя - на пост; чорныя - на тыдні пакутаў Хрыстовых і на пахавінах.

**КОМІТЕТ** (Р.) - глядзі **ПАРАФІЯЛЬНАЯ РАДА.**

**КОНАДЗЕНЬ** - дзень перад якім-небудзь сьвятам, здарэньнем альбо ўрачыстасьцяй.

**КРЫВАДУШНЫ** (Бел.) - ашуканскі, няшчыры, двудушны, манлівы, несправядлівы чалавек.

**КРЫЖ** - стрыжань, на якім ёсьць адна, дзьве альбо тры папярэчкі, і які сымбалізуе крыж, на якім быў укрыжаваны Госпад наш Ісус Хрыстос. Ёсьць некалькі формаў крыжа ў народаў. Грэкі маюць чатырох канцовы крыж і ўсе чатыры рамёны роўныя. Рыма-Каталікі маюць крыж чатырох канцовы й розьніца ад грэцкага тым, што ніжняе рамянё даўгое. Расейскі крыж мае тры папярэчкі с тым, што ніжняя папярэчка на ўскос прымацавана. Наш беларускі праваслаўны крыж ёсьць шасьціканцовы, крыж Еўфрасіньні Полацкай.

**КРЫЖ ЕЎФРАСІНЬНІ ПОЛАЦКАЙ** - глядзі **БЕЛАРУСКІ ПРАВАСЛАЎНЫ КРЫЖ.**

**КРЫЖ З АЗДОБАМІ** - крыж, які ўкрашаны, аздоблены, дарагімі каменьнямі. Ён надаецца ярэям, як нагарода. Гэты крыж носяць архімандрыты і япіскапы.

**КРЫЖМА** - белае палатно, якім акутваецца асоба, адразу пасьля купаньня пры хросьце.

**КУПАЛ** - вонкавае, верхняе заканчэньне праваслаўнай сьвятыні ў форме круглай шапкі (Грэцыя), альбо ў выглядзе цыбулі (Расея). Беларускі купал больш падобны да грэцкага.

**КУПАЛЬЛЕ** - глядзі **НАРАДЖЭНЬНЕ ЯНА ХРЫСЬЦІЦЕЛЯ.**

**КУПАЛЬНЯ** - пасудзіна, у якую наліваецца вада, асьвячваецца ярэем і у якой сьвятар хрысьціць асобу.

## Л

**ЛАДААКІЙСКІ МЯСЦОВЫ САБОР** - сабор, які адбыўся ў Ладаакіі ў 364 г. і на якім прысутнічала, як скаязана «многа» япіскапаў, яны выпрацавалі й прынялі 60 правілаў.

**ЛАДАН** - духмяная, водарная, пахучая смала, якая кладзецца ў кадзіла на распалены вугаль для каджэньня.

**ЛАСКА** (Бел.) - звышдадзены Богам дар чалавеку, каб свабодна мог асягнуць вечнае жыцьцё. Расейскае - БЛАГАДАТЬ.

**ЛАЎРА** - вялікі многалюдны манастыр.

**ЛЕВЫ КЛІРАС** - перагародка зь левага боку на салеі пры сьцяне, дзе, падчас багаслужбы стаіць радня сьвятароў. А калі ёсьць два хоры, тады сьпевакі другога хору.

**ЛЕВЫ НАРУКАЎНІК** - нарукаўнік, які накладаецца на левую руку. Глядзі **НАРУКАЎНІК.**

**ЛІТАНІЯ** (Гр.) - глядзі **ЕКЦЯНЬНЯ.**

**ЛІТУРГІЧНЫ КРУГ БАГАСЛУЖБАЎ** - круг багаслужбаў, які пачынаецца зь першага дня Вялікадня й канчаецца ў



сыботу перад Вялікаднем. **ГАДАВЫ КРУГ БАГАСЛУЖБАЎ.**

**ЛІТУРГІЧНЫ** (Гр.) - прыналежны да багаслужбы літургіі.

**ЛІТУРГІЧНЫЯ КНІГІ** - галоўныя кнігі патрэбныя для багаслужбаў; службоўнік, трэбнік, часаслоў, мінея, васьмісьпеўнік, трыодзь.

**ЛІТУРГІЯ** (Гр.) - агульная багаслужба, на якой выконваецца Сьв. Еўхарыстыя, прыносіцца сьв. ахвяра. Сьвятая Літургія складаецца з трох частак; праскамідыі, літургіі агалошаных, літургіі верных. Ёсьць чатыры аддзельных літургій; Сьв. Літургія Якуба, Сьв. Літургія Раней Асьвячанай Ахвяры сьв. Рыгора Дваяслова, Сьв. Літургія Сьв. Васіля Вялікага й Сьв. Літургія сьв. Яна Залатавуснага.

**ЛІТУРГІЯ АГАЛОШАНЫХ** - другая частка літургіі. Ад пачатку «Дабраславёнае валадарства» да «Толькі верныя...».

**ЛІТУРГІЯ ВЕРНЫХ** - трэцяя частка літургіі. Ад «Толькі верныя...» да канца.

**ЛІХА** - дрэнна, вельмі блага. Расейскае - **ЛУКАВСТВО.**

**ЛІХІ** - той, хто можа спрычыніць ліха; дрэнны, благі, злы, нядобры.

**ЛІЦІЯ** - частка маленьня ўсяночнае чуйнасьці, на якой выконваецца дабраславеньне хлябоў.

**ЛУКАВСТВО** - глядзі **ЗЛО, ЛІХА, ПАДСТУПСТВА.**

## М

**МАГІ** - так называюць мудрацоў са ўсходу.

**МАГІЛА** - месца, дзе ў зямлі пахаванае цела памерлага чалавека

**МАЛАЯ ВЯЧОРНЯ** - малая вячорня служыцца толькі перад **ЧУЙНАСЬЦЮ**, якая пачынаецца вячорняй, але не павячорняй.

**МАЛАЯ ПАВЯЧОРНЯ** - амал на палавіну скарочана **ВЯЛІКАЯ ПАВЯЧОРНЯ.**

**МАЛЕБЕН** (Ц.-сл.) - адумыснае маленьне падзякі, просьбы ці пахвалы.

**МАЛЕНЬНЕ ПАДЗЯКІ** - маленьне, калі малітоўна прыносіцца падзяка Богу, Багародзіцы ці сьвятым.

**МАЛЕНЬНЕ ПАХВАЛЫ** - маленьне, калі малітоўна аддаецца пахвала , слаўленьне Сьвятой Тройцы, Багародзіцы ці сьвятым.

**МАЛЕНЬНЕ ПРОСЬБЫ** - маленьне, калі малітоўна просіцца ў Сьв. Тройцы, Багародзіцы ці ў сьвятых дапамогі, ратунку ці зьмілаваньня.

**МАЛІТВА** - просьба, душэўная лучнасьць верніка з Богам. Просьба да Бога. **ПРОСЬБА.**

**МАЛОЕ ПОКРЫВА** - малое покрыва, што адным накрываецца дыскас з прыгатоўленым агнцам, а другім накрываецца чара з прыгатоўленым вінам на праскамідыі.

**МАЛЫ АМАФОР** - малы амафор карацейшы за вялікі, які накідаецца архірэю на плечы і абодва канцы спадаюць сьпераду.

**МАЛЫ ВЫХАД** - малы выхад, калі дыякан альбо ярэй са сьв. Дабравесьцем ідзе навокал сьвятога прастолу й выходзіць з алтара праз паўночныя дзьверы і ўваходзіць у алтар праз райскія дзьверы й кладзе яго на сьв. прастоле.

**МАЛЫ ЧАСАСЛОЎ** - скарочаны **ВЯЛІКІ ЧАСАСЛОЎ.**



**МАНАСТЫР** - манастыр ёсьць месцам, дзе манахі супольна жывуць. Ёсьць два роды манастыроў: **а)** мужчынскі і **б)** жаночы. Кожны манастыр мае свае правілы, якіх усе жыхары манастыра маюць прытрымоўвацца.

**МАНАХ** - манах, асоба мужчынскага роду, які прырок служыць Богу й царкве ды падстрыжаны ў гэты сан і жыве ў манастыры. З дазволу кіруючага япіскапа, ён можа жыць вонкі манастыра, калі ён выконвае місію яму прызначану.

**МАНАХІНЯ** - глядзі **МАНАШКА.**

**МАНАШКА** - асоба жаночага роду, адпаведнік мужчынскаму **МАНАХ.** Часам называюць яе **МАНАХІНЯ, МНІШКА, ЧАРНІЦА.**

**МАНАШСКАЯ МАНЬЦІЯ** - чорная маньція без скрыжаляў.

**МАНЬЦІЯ** - верхняе, даўгое без рукавоў адзеньне, якое ахінае ўсё цела, апрача галавы.

**МАРАПЛАЎ РАТУНКУ** - глядзі **ЎСЯЛЕНСКІ.**

**МАРАПЛАЎ РАТУНКУ** - праваслаўная Хрыстовая царква, **глядзі СУСЬВЕТНЫ.**

**МАРТЫРАЛОГ** - кніга, якая месьціць у сабе сьпіс імёнаў сьвятых пакутнікаў і апісаньне іхнага пакутніцтва.

**МАСЬЛЕНІЦА** - апошні тыдзень перад Вялікім Постам. У гэты тыдзень царквою пастаноўлена ня есьці нічога мяснога, але можна есьці малако, малочныя вырабы і яйкі.

**МЕСТОБЛЮСТІТЕЛЬ** (Рас.) - глядзі **ВЫКОНВАЮЧЫЙ АБАВЯЗКІ.**

**МЕСЯЦАСЛОЎ** - глядзі **КАЛЯНДАРНЫ КРУГ БАГАСЛУЖБАЎ.**

**МЕСЯЧНАЯ МІНЕЯ** - кніжка, якая месьціць у сабе ўсе багаслужбы на кожны дзень месяца сьвятам і сьвятым. Ёсьць 12 кнігаў, адна на кожны месяц году.

**МЕШАНЫ ШЛЮБ** - мешаны шлюб , калі адна асоба неправаслаўная з тае пары, што бяруць шлюб.

**МІНЕЯ** - кніга, якая месьціць у сабе багаслужбы на кожны дзень.

**МІРА** (Габр.) - архірэем прыгатоўлены й пасьвячаны духмяны алей для Сьвятога Таінства мірапамазаньня пасьля хросту.

**МІРАНІН** - сьвецкі вернік, які належыць да царквы.

**МІРАНЕ** - множны лік ад **МІРАНІН.**

**МІРАНОСІЦА** (Ц.-сл.) - жанчына, што несла міра, духмяны алей для пахавальнага рыхтаваньня цела Госпада нашага Ісуса Хрыста.

**МІРАПАМАЗАНЬНЕ** (Ц.-сл.) - адно зь сямі Сьв. Таінстваў, якое выконваецца пасьля хросту.

**МІСІЯ 1.** - праца, якая праводзіцца сярод паганаў, каб навярнуць іх на праўдзівую праваслаўную веру.

**МІСІЯ 2.** - асяродак, дзе знаходзіцца галоўнае місійнае кіравецтва і памяшчаюцца місіянеры.

**МІСІЯНЕР** - асоба - архірэй, ярэй ці сьвецкая асоба, якія пасылаюцца ў паганскае асяродзьдзе, каб прывесьці іх да Бога ў праваслаўнай веры.

**МІТРА** (Гр.) - шапка, глядзі **ШАПКА.**

**МІТРАПАЛІТ** (Гр.) - сан кіраўнічага япіскапа, пастаўленага кіраваць япархіяй. Назоў паходзіць ад метраполія - места, архірэй абласнога гораду.

**МІТРАПОЛІЯ** (Гр.) - адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка царквы.



**МІТРАТ** - ярэй, які нагароджаны мітрай.

**МНІХ** - тое сама, што і **МАНАХ.**

**МНІШКА** - глядзі **МАНАШКА.**

**МНОГАЛЕЦЬЦЕ** - сьпяваньне тройчы, многія лета.

**МУДРАЦЫ СА ЎСХОДУ** - Мельхіор, Каспар і Валтасар, што прышлі са ўсходу ды прынесьлі дарункі Дзіцятку Ісусу. Яны былі ведзены зоркай да Бетлеему, дзе нарадзіўся Ісус. **ВЯШЧУНЫ.**

**МУЖЧЫНСКІ МАНАСТЫР** - манастыр, у якім жывуць толькі манахі мужчынскага роду.

**МЫТНІК** (Бел.) - зьбіральнік мыта.

## Н

**НАБАЖЭНСТВА** - глядзі **БАГАСЛУЖБА.**

**НАБАТ** драўляная дошка, па якой б'юць драўляным малатком, робяць звук і гэтак манахі склікаюць вернікаў у сьвятыню на багаслужбы. Потым званы замянілі дошкі.

**НАБЕДРАНІК** - прастакутнік, пашыты з таго самага матарыялу, што і рызы. Набедранік даецца архірэем ярэю, як нагароду, які ён носіць на правым сьцягне.

**НАВЕРНЕНЫ** - асоба, якая прыйшла да пераканаьня і адкінула папярэднюю ерась ды заявіла быць праваслаўнай і была ахрышчана праваслаўным сьвятаром у праваслаўную веру.

**НАГРУДНЫ КРЫЖ** - крыж, які носіць на грудзях ярэй ці архірэй. Ёсьць крыжы звычайны й з аздобамі.

**НАДЗЕЯ** - надпрыродная цнота, уласьцівасьць асобы мець моцную веру ў Бога, што Ён пашле яму вечнае жыцьцё.

**НАЗНАЧЭНЬНЕ НА ЯПІСКАПА** - абрад назначэньня на япіскапа выконвае сабор япіскапаў, пасьля таго, як кандыдат быў выбраны й зацьверджаны. Звычайна назначэньне адбываецца ў сьвятыні за некалькі дзён перад хіратоніяй, альбо на конадні хіратоніі. Па цяркоўна-славянску завуць гэта **НАРЭЧЭНІЕ ВО ЕПІСКОПА.**

**НАЙПАЧЭСНЫ** - тое самае, што **НАЙПАЧАСЬНЕЙШЫ.**

**НАЙПАЧАСЬНЕЙШЫ** (Бел.) - тытул архірэя, Першага Ярарха Царквы. Расейскае - **БЛАЖЭННЫ.**

**НАЙСЬВЯЦЭЙШАЯ ДЗЕВА** - адносіцца да Сьв. Дзевы Марыі, Багародзіцы.

**НАЙЧЫСЬЦЕЙШАЯ** - глядзі **НАРАДЖЭНЬНЕ БАГАРОДЗІЦЫ.**

**НАКАЛЕНЬНІК 1.** - палатняны кусок у выглядзе ромбу, пашыты з той самай матэрыі, што й рызы. Накаленьнік надае архірэй ярэю, як нагароду і ён носіць яго на правым сьцягне. **ПАЛІЦА.**

**НАКАЛЕНЬНІК 2.** - частка архірэйскай багаслужбовай вопраткі, якую ён апранае на багаслужбы. Архірэй носіць накаленьнік на правым сьцягне. **ПАЛІЦА.**

**НАПРАСТОЛЬНАЕ ДАБРАВЕСЬЦЕ** - кніга Дабравесьця, якая падзеляна на чытаньні на кожны дзень гадавога круга багаслужбаў, што праз увесь час знаходзіцца на сьв. прастоле, і зь якой чытаюцца дабравесьці на багаслужбах.

**НАПРАСТОЛЬНЫ КРЫЖ** - крыж, які знаходзіцца ўвесь час на сьв. прастоле і які ярэй дае цалаваць вернікам у канцы багаслужбы.

**НАРАДА ЯПІСКАПАЎ** - паседжаньне сабору япіскапаў.



**НАРАДЖЭНЬНЕ** - нараджэньнем адзначаюцца тры сьвяты; **НАРАДЖЭНЬНЕ ХРЫСТА,** 25 сьнежня, **НАРАДЖЭНЬНЕ НАЙСЬВЯЦЕЙШАЙ ДЗЕВЫ МАРЫІ,** 8 верасьня, **НАРАДЖЭНЬНЕ СЬВ. ЯНА ХРЫСЬЦІЦЕЛЯ,** 24 чэрвеня. У сапраўднасьці, праваслаўная царква сьвяткуе толькі гэтыя тры нараджэньні.

**НАРАДЖЭНЬНЕ БАГАРОДЗІЦЫ** - сьвята сьвяткуецца 8 верасьня. **ПРАЧЫСТАЯ, НАЙЧЫСЬЦЕЙШАЯ.**

**НАРАДЖЭНЬНЕ ХРЫСТОВАЕ** - нараджэньне Госпада нашага Ісуса Хрыста, сьвята сьвяткуецца 25 сьнежня. **КАЛЯДЫ.**

**НАРАДЖЭНЬНЕ ЯНА ХРЫСЬЦІЦЕЛЯ** - сьвята сьвяткуецца 24 чэрвеня. **КУПАЛЬЛЕ, СЬВЯТОГА ЯНА.**

**НАРУКАЎНІК** - нарукаўнік пашыты з таго самага матарыялу, што і рызы, даўжынёю 4 цм. Нарукаўнікі накладаюцца на рукі паверх рукавоў падрызьніка. Ёсьць **ЛЕВЫ НАРУКАЎНІК** і **ПРАВЫ НАРУКАЎНІК.**

**НАРЭЧЭНІЕ ВО ЕПІСКОПА** - глядзі **НАЗНАЧЭНЬНЕ НА ЯПІСКАПА.**

**НАШАЙ ЭРЫ - Н. Э.**

**НАЦЕЛЬНЫ КРЫЖ** - малы крыжык, які вернікі носяць на целе, на грудзях.

**НАШАЙ ЭРЫ** - глядзі **П. Х.**

**НЕАКЕСАРЫЙСКІ МЯСЦОВЫ САБОР** - сабор, які адбыўся ў 315 г. і на якім прысутнічала 23 япіскапы, яны выпрацавалі й прынялі 15 правілаў.

**НЕБА** - глядзі **НЯБЁСЫ.**

**НЕЗАЛЕЖНАЯ ЦАРКВА** - адміністрацыйна незалежная, самакіруючая царква. Глядзі - **АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ЦАРКВА.**

**НЕПАМЫЛЬНАСЬЦЬ** - у 1870 Першы Ватыкаянскі Сабор рыма-каталіцкай Царквы нагарадзіў рымскага папу непамыльнасьцю й зацьвердзіў, як догмат веры.

**НІ КА** - ініцыялы грэцкіх слоў: «Гэтым ты заваюеш». Гэтыя ініцыялы ставяцца пад ініцыялямі **ІС ХР** на проскуры.

**НІКЕЙСКІ СЫМБАЛЬ ВЕРЫ** - сымбаль веры «Верую...», які быў прыняты на Нікейскім Саборы ў 325 г., і прадоўжаны на Канстантынопальскім Саборы ў 381 г.

**НІКЕЙСКІ ЎСЯЛЕНСКІ САБОР** (325 г) - глядзі **ПЕРШЫ ЎСЯЛЕНСКІ САБОР.**

**НІКЕЙСКІ ЎСЯЛЕНСКІ САБОР** (783-788 гг.) - глядзі **СЁМЫ ЎСЯЛЕНСКІ САБОР.**

**НІМБ** (Гр.) - існы, тое самае, што і **АРЭОЛ**.

**НОВЫ ЗАПАВЕТ** - другая частка Сьв. Бібліі, якая складаецца з Дабравесьця, Дзеяў Апостальскіх, Апостальскіх Лістоў і Адкрыцьця (Аб'яўленьня). Усіх 27 кнігаў.

**НОВЫ КАЛЯНДАР** - каляндар, які быў прыняты ў 1582 г. Рыма-Каталіцкай Царквою за папы Рыгора XIII. Ён завецца яшчэ **Грыгар'янскі** Каляндар. Цяпер гэты каляндар ёсьць на 13 дзён уперадзе ад старога **Юльянскага** каляндара. Стары юльянскі каляндар быў прыняты царквою ў 325 г.

**НОВЫ СТЫЛЬ** - тое сама, што і **НОВЫ КАЛЯНДАР**. У царкоўнай мове, ён завецца новы стыль, у адрозьненьне ад **СТАРОГА СТЫЛЮ.**

**НОРМА** - устаноўлена і агульна прынята мера правілаў паводзін людзей.

**Н. Э.** - нашай эры, глядзі **П. Х.**

**НЯБЕСНЫ ПАТРОН** - сьвяты, якога выбірае сабе народ, парафія, брацтва, сястрыцтва, сям'я ды іншыя супольствы, як свайго ахоўніка.



**НЯБЁСЫ** - месца дасканалай сьвятасьці, дзе душы тых, што заслужылі, будуць вечна прысутнічаць у поўным зьзяньні Божага сьвятла.

**НЯДЗЕЛЬНАЯ ПАЎНОЧНІЦА** - паўночніца, якая служыцца толькі ў нядзелю.

**НЯДЗЕЛЬНЫ АДПУСКНЫ БАГАРОДЗІЧАН** - глядзі **БАГАРОДЗІЧАН** # 3.

**НЯДЗЕЛЯ** (Ц.-сл.) - не рабіць, непрацоўны дзень. Дзень, у які нічога ня робіцца.

**НЯДЗЕЛЯ ПРАВАСЛАЎЯ** - першая нядзеля Вялікага Посту, у якую ў 842 г. Сьв. Царква пастанавіла адзначаць перамогу праваслаўя над іканаборцамі.

**НЯЧЫСЬЦІК** - тое самае, што д'ябал. Расейскае - БЕС, ЛУКАВЫЙ.

## П

**ПАВЕЛІ** - тое сама, што **ПАВЕЛІЦЕ.**

**ПАВЕЛІЦЕ** (Ц.-сл.) - загадайце, загадай. Слова, якое паходзіць ад «повеленіе», што азначае загад, прапанаваньне, даручэньне. Гэтае слова ўжываецца пры хіратоніі, рукапалажэньні.

**ПАВЯЧОРНЯ** - багаслужба дзённага круга, якая служыцца пасьля вячорні. Ёсьць **ВЯЛІКАЯ ПАВЯЧОРНЯ** й скарочаная **МАЛАЯ ПАВЯЧОРНЯ.**

**ПАДДЫЯКАН** (Гр.) - ніжэйшы дыякана прыслужнік.

**ПАДДЫЯКАНСКІ СЬЦІХАР** - вонкавая вопратка, якую паддыяканы апранаюць на час прыслугоўваньня пры бага-

службах. Пры гэтым паддыякан падпяразваецца на крыж доўгім поясам, пашытым з таго самага матарыялу, што й сьціхар.

**ПАДНЯЦЬЦЕ КРЫЖА** - сьвята, якое сьвяткуецца 14 верасьня.

**ПАДРАСЬНІК** - доўгае чорнае адзеньне сьвятарства, наверх якога адзяваецца раса.

**ПАДРЫЗЬНІК** (Ц.-сл.) - вопратка, якую ярэй альбо архірэй апранае пад рызы ці пад сакас.

**ПАДСТУПНЫ** - крывадушны, ня чэсны, хітры. Расейскае - ЛУКАВЫЙ.

**ПАДСТУПСТВА** - крывадушнасьць, хітрасьць, зманлівасьць. Расейскае - ЛУКАВСТВО.

**ПАЗБАЎЛЕНЫ САНУ** - сьвятар (дыякан, ярэй ці япіскап), які правініўся й царкоўным судом прызнаны вінаватым і тады саборам япіскапаў пазбаўлены сану.

**ПАКАЯННЫ ПСАЛОМ** - **50/51** псалом.

**ПАКЛОН** - ёсьць зямны паклон, да пояса й сьхіленьне галавы. Гэта робіцца для адданьня пашаны сьвятасьцям, пры ўваходзе й выхадзе са сьвятых месцаў.

**ПАКЛОНЫ** - вячорня, якая служыцца ўвечары ў сераду на пятым тыдні Вялікага Посту. Вячорня даўгая, бо да яе прыкладаецца Вялікі Канон Андрэя Крыцкага. Падчас гэтага багаслужэньня вернікі робяць многа паклонаў, таму ў народзе названы гэты вечар **ПАКЛОНЫ**.

**ПАКУТНІК** (Бел.) - асоба, што пацярпела пакуты, сьмерць за веру.

**ПАКУТНІЦТВА** - дзея пакутаў, якую праходзяць пакутнікі. Глядзі **МАРТЫРАЛОГ**.



**ПАЛАНАМАР** - асоба, якая прыслугоўвае пры багаслужбах сьвятару, тое самае, што й прыслужнік.

**ПАЛІЦА** - тое самае, што і **НАКАЛЕНЬНІК**.

**ПАЛІЯЛЕЙ** - глядзі **ПРАСЛАЎЛЕНЬНЕ # 2.**

**ПАЛОМНІЦТВА** - вандроўка наведваць сьвятыя месцы, каб пакланіцца сьвятым. **ПІЛЬГРЫМКА**.

**ПАМАЗАНЕЦ** - глядзі **ХРЫСТОС**.

**ПАМІНАЛЬНАЯ КНІЖКА** - кніжка у якой запісаны імёны жывых і памерлых, для памінаньня на багаслужбах.

**ПАМІНАНЬНЕ** (Бел.) - імённае памінаньне жывых ці памерлых падчас маленьня.

**ПАМІНКІ** (Бел.) - абед пасьля маленьня за памерлых. Звычайна пасьля паховінаў ці паніхіды. **ТРЫЗНА**.

**ПАНАГІЯ** (Гр.) - усесьвяты. Круглы альбо авальны абразок Ісуса Хрыста альбо Багародзіцы, у аздобленых металёвых рамках, які носіць япіскап на грудзях.

**ПАНІХІДА** (Гр.) - маленьне за памерлых.

**ПАНІХІДНІК** - аналой, столік, пры якім служацца паніхіды.

**ПАРАСТАС** - маленьне ўсяночнае пільнасьці па памерлых. **ВЯЛІКАЯ ПАНІХІДА**.

**ПАРАФІЯ** (Бел.) - найменшая самастойная ў кіраваньні грамадой у справах гаспадарчай адміністрацыі адзінка ў царкве. У справах рэлігійна-царкоўных на чале парафіі стаіць кіраўнічы ярэй.

**ПАРАФІЯЛЬНАЯ РАДА** (Бел.) - управа парафіі, выбраная парафіяльным сходам. На чале парафіяльнай рады стаіць старшыня, выбраная асоба з парафіяльнае рады. Расейскае - **ЦЕРКОВНЫЙ КОМІТЕТ**.

**ПАРАФІЯЛЬНЫ СХОД** - сход парафіі, які склікаецца старшынёй парафіяльнай рады ў паразуменьні з кіраўнічым парафіі, ярэем.

**ПАРУЧЫЦЕЛІ** - глядзі **ХРОСНЫЯ БАЦЬКІ.**

**ПАСІЯ** - чытаньне на павячорнях сьв. дабравесьця пра пакуты Хрыстовыя. Яны чытаюцца ў пятніцы на 1-м, 2-м, 3-м і 4-ым тыднях Вялікага Посту.

**ПАСЛАНЬНЕ 1.** - ліст ад япіскапа альбо ад япіскапаў.

**ПАСЛАНЬНЕ 2.** - ліст ад апостала ў Новым Запавеце. Лісты ад ап. Якуба, ап. Пётры, ап. Яна, ап. Юды, ап. Паўла.

**ПАСЛУШНІК** (Ц.-сл.) - глядзі **БРАТЧЫК 1.**

**ПАСТЫРСКІ ЛІСТ** - загад, архірэйскае распараджэньне на пісьме сьвятаром, парафіянам, вернікам.

**ПАСХА** (Габр.) - пераход, зьмяніць месца, сьвята мацы. Гэтым імём Габрэі называюць ягня - агнца, якое яны закольвалі ды елі на гэтае сьвята. Грэкі назвалі Пасхаю сьвята ўваскрасеньня Хрыстовага, **ВЯЛІКДЗЕНЬ.**

**ПАСХАЛІЯ** - гэтак завецца вылічэньне, паводле якога вылічаецца дзень Пасхі ды іншыя рухомыя сьвяты.

**ПАСХАЛЬНЫ ТЫДЗЕНЬ** - першы тыдзень пасьля Вялікадня. **ВЯЛІКОДНЫ ТЫДЗЕНЬ.**

**ПАСЬВЯТА 1.** - час пасьля вялікага сьвята, які трывае адзін альбо некалькі дзён ці тыдні.

**ПАСЬВЯТА 2.** - у значэньні **ВЫСЬВЯЧЭНЬНЕ # 2.**

**ПАСЬВЯТА 3.** - дзея адданасьці справе, аддаў сябе, пасьвяціўся.

**ПАСЬВЯЦІЦЦА** - усяцэла аддацца, ахвяравацца якой-н. справе.

**ПАСЬЦІЦЬ** - паўстрымацца ад скаромнае яды, ежы ў посныя дні.



**ПАТРЫЯРХ** (Гр.) - бацька япіскапаў. Ступен сьвятарства, найвышэйшы сярод япіскапаў. Кіраўнічы плямёнаў, сям'і.

**ПАТРЫЯРХАТ** - царкоўная ўстанова. Напачатку было толькі пяць патрыярхатаў; **РЫМСКІ, КАНСТАНТЫНОПАЛЬСКІ, АЛЯКСАНДРЫЙСКІ** (Ягіпець), **АНТЫЯХІЙСКІ** (Сірыя) і **ЕРУСАЛІМСКІ.** Потым паўсталі новыя патрыярхаты; **МАСКОЎСКІ** (Расея), **БЕЛГРАДСКІ** (Сэрбія), **САФІЙСКІ** (Баўгарыя), **БУКАРЭШСКІ** (Румынія), і апошня **КІЕЎСКІ** (Украіна).

**ПАТРЫЯРШАЕ ПАСЛАНЬНЕ** - палсланьне высланае ад Патрыярха.

**ПАЎДЗЁННЫЯ ДЗЬВЕРЫ** - дзьверы у іканастасе, што знаходзяцца з правага боку. Яшчэ іх завуць **ПАЎДЗЁННЫЯ ДЫЯКАНСКІЯ ДЗЬВЕРЫ.**

**ПАЎДЗЁННЫЯ ДЫЯКАНСКІЯ ДЗЬВЕРЫ** - глядзі **ПАЎДЗЁННЫЯ ДЗЬВЕРЫ.**

**ПАЎНОЧНІЦА** - служба дзённага круга, якая некалі служылася ўпоўнач. Ёсьць тры Паўночніцы; 1. **ШТАДЗЁННАЯ;** 2. **СЫБОТНЯЯ.** 3. **НЯДЗЕЛЬНАЯ.**

**ПАЎНОЧНЫЯ ДЗЬВЕРЫ** - дзьверы у іканастасе, што знаходзяцца зь левага боку. Яшчэ іх завуць **ПАЎНОЧНЫЯ ДЫЯКАНСКІЯ ДЗЬВЕРЫ.**

**ПАЎНОЧНЫЯ ДЫЯКАНСКІЯ ДЗЬВЕРЫ** - глядзі **ПАЎНОЧНЫЯ ДЗЬВЕРЫ.**

**ПАХОВІНЫ** - цэлы абрад пахаваньня, маленьні, якія адбываюцца над целам памерлага перад апушчэньнем яго ў зямлю, магілу.

**ПАХУЧЫ** - глядзі **ДУХМЯНЫ.**

**ПАЦЕРКІ** - глядзі **ВЕРВІЦА.**

**ПАЧАТАК** (Бел.) - увесь Новы Запавет, апроч **АБ'ЯЎЛЕНЬНЯ**, які чытаецца часткамі на багаслужбах, падзеліны на пачаткі. Пачаткі панумараваны. Дабравесьце паводле Мацея ад **1** да **116** пачатку; Маркі - ад **1** да **71**; Лукаша - ад **1** да **114**; Яна - ад **1** да **67** пачатку. Апостал, які ўключае Дзеі і ўсе лісты апосталаў, падзелены ад **1** да **335** пачатку. **ЗАЧАЛА**.

**ПАЧЭСНЫ** (Бел.) - тытул япіскапа. Расейскае - ПРЕОСВЯЩЧЭННЫ.

**ПАЯСНЫ ПАКЛОН** - калі асоба схіляецца да пояса ўперад.

**П. Х.** - час па нараджэньні Хрыста, **нашай эры. Н. Э.**

**ПЕКЛА** - месца, дзе грэшнікі й праклятыя ўвесь час пакутуюць пасьля сьмерці.

**ПЕРШАПАКУТНІК** - гэтак царква назвала архідыякана Сьцяпана, бо ён першы з усіх хрысьціяняў быў забіты, закамяняваны на сьмерць, Габрэямі за веру ў Хрыста.

**ПЕРШАЯ АСОБА СЬВЯТОЙ ТРОЙЦЫ** - Бог Айцец, які роўны Богу Сыну й Богу Духу Сьвятому. **БОГ АЙЦЕЦ.**

**ПЕРШЫ КАНСТАНТЫНОПАЛЬСКІ ЎСЯЛЕНСКІ САБОР** - глядзі **ДРУГІ ЎСЯЛЕНСКІ САБОР.**

**ПЕРШЫ ЎСЯЛЕНСКІ САБОР** - адбыўся ў Нікеі ў 325 г., пры Канстантынопальскім патрыярху Аляксандру, і на ім прысутнічала 318 япіскапаў, і яны выпрацавалі й прынялі 20 правілаў.

**ПЕРШЫ ЧАС** - глядзі **ЧАС.**

**ПЕРШЫ ЯРАРХ** - архірэй, які ачольвае царкву.

**ПЕСЬНЯ** - паэтычны твор для сьпеваў.

**ПЕСЬНЯ КАНОНА** - песьня канона складаецца з ірмоса, трапароў і багародзічнага.



**ПІЛІПАЎКА** (Бел.) - пост перад Калядамі, запускі якога адбываюцца на Піліпа 14/27 лістапада, таму і называецца **ПІЛІПАЎКА. КАЛЯДНЫ ПОСТ.**

**ПІЛЬГРЫМКА** - тое самае, што і **ПАЛОМНІЦТВА.**

**ПЛАШЧАНІЦА** (Ц.-сл.) - палатно, якім акутваецца цела памерлага для пахаваньня. У царкве плашчаніца, дзе намаляваны абраз лежачага Госпада нашага Ісуса Хрыста.

**ПОКРЫВА** - ёсьць два малых і адно вялікае покрывы. Малымі покрывамі накрываюцца дыскас зь сьвятым хлебам і чара зь віном. Вялікім покрывам накрываецца дыскас і чара паверх малых покрываў.

**ПОПЕЧЫЦЕЛЬ** - глядзі **АПЯКУН.**

**ПОСАХ** - кій, які сымбалізуе ўладу ігумена альбо архімандрыта над манахамі ў манастыры.

**ПОСНАЯ ТРЫОДЗЬ** - кніга, якая месьціць у сабе посныя багаслужбы, пачынаючы ад нядзелі Мытніка й Хварысея да сыботы перад Вялікаднем уключна.

**ПОСНЫ ДЗЕНЬ** - дзень, у які вернікі ўстрымоўваюцца есьці скаромную ежу, яду.

**ПОСТ** - царквою прызначаныя дні альбо тыдні, у якія вернікі маюць паўстрымацца ад скаромнае ежы, яды.

**ПОЯС** - пояс ёсьць часткаю багаслужбовага адзеньня.

**ПОЯС 1.** - даўгі пояс, шырыні каля 8 цм, якім дыякан і паддыякан накрыж праз плячо апяразваюцца на багаслужбах. Пояс пашыты з таго самага матарыялу, што і сьціхар. **АРАР.**

**ПОЯС 2.** - кароткі пояс, шырыні каля 8 цм, якім ярэй і архіярэй апяразваюцца ў поясе на багаслужбах.

**ПРАБАЧЭНЬНЕ ГРАХОЎ** - тое самае, што **ВЫБАЧЭНЬНЕ ГРАХОЎ.**

**ПРАВА** (Бел.) - абавязковыя для ўсіх нормы, устаноўлены вышэйшай уладай краіны ці царквы, якія маюць найвышэйшую юрыдычную ўладу, сілу. **ЗАКОН.**

**ПРАВАДАЎСТВА** (Бел.) - савакупнасьць прававых норм, якія рэгулююць рэлігійныя адносіны ў цэлым альбо адну галіну царкоўных адносін. **ЗАКАНАДАЎСТВА.**

**ПРАВАДНАЯ НЯДЗЕЛЯ** - нядзеля пасьля Вялікадня, Нядзеля Тамаша. У гэтую нядзелю, некаторыя парафіі ходзяць на могільнікі й моляцца над магіламі за памерлых. **ПРОВАДЫ.**

**ПРАВАСЛАЎНАЯ ХРЫСТОВАЯ ЦАРКВА** - царква, якая была заснавана Самім Госпадам нашым Ісусам Хрыстом.

**ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА** - царква, якая вучыць праўдзівую, правільную праваслаўную веру

**ПРАВАСЛАЎНЫ** - асоба, якая вызнае й моцна верыць у праўдзівую Хрыстовую навуку так, як яе падае нам і навучае нас Сьвятая Праваслаўная Хрыстовая Царква.

**ПРАВАСЛАЎНЫ АЙЦЕЦ** - глядзі **АЙЦЕЦ ПРАВАСЛАЎНЫ.**

**ПРАВАСЛАЎНЫ КРЫЖ** - ня гледзячы на хорму крыжа, які народы маюць, але праваслаўны крыж заўсёды мае ўкрыжаванага Ісуса Хрыста, у якога стопы ног адна пры адной і прыбіты да крыжа кожна асобна цьвякам. Рыма-каталіцкі крыж мае ўкрыжаванага Ісуса, у якога стопы ног заложаны адна на адну і прыбіты адным цьвяком.

**ПРАВАСЛАЎНЫ СЫМБАЛЬ ВЕРЫ** - глядзі **СЫМБАЛЬ ВЕРЫ.**

**ПРАВЕДНІК** - асоба, якая жыве належна бязгрэшным сьвятым жыцьцём прад Богам.



**ПРАВЕРШЧЫК** - япіскапам назначана асоба , якая мае праверяць праўдзівую навуку веры й маралі ў кніжцы ці іншым пісаньні, перад тым, як мае ісьці да друку.

**ПРАВІЛА** - забавязваючы ўзор, норма, паводле якога праводзяцца справы.

**ПРАВЫ КЛІРАС** - у сьвятынях, дзе няма хораў, месца для сьпевакоў, дык тут знаходзіцца хор, які сьпявае на літургіі.

**ПРАВЫ НАРУКАЎНІК** - нарукаўнік, які накладаецца на правую руку. Глядзі **НАРУКАЎНІК.**

**ПРАДБАЧАНЬНЕ** - тое самае, што й **ПРОМЫСЕЛ.**

**ПРАДСЬВЯТА** (Бел.) - дзень ці дні перад сьвятамі Госпадавымі ці Багародзічнымі. У гэтыя дні сьпяваюцца вершы, што адзначаюць надыходзячае сьвата.

**ПРАЗАЛІТ** - прыхадзень, зайшлы чалавек, чужынца.

**ПРАКІМЕН** (Гр.) - пастаўлены наперад. Сказ узяты з псалмоў, прагалошваны перад чытаньнем апостала, а часам перад дабравесьцем і парэміямі.

**ПРАПАВЕДНІК** - тое сама, што і **КАЗАНЬНІК.**

**ПРАРОК** - асоба, што па натхненьню Сьвятога Духа прадсказвае будучыню, а пераважна пра Ісуса Хрыста.

**ПРАСКАМІДЫЯ** (Гр.) - прынясеньне. Першая частка сьв. літургіі, на якой рыхтуецца агнец.

**ПРАСЛАЎЛЕНЬНЕ 1.** - праслаўленьне Госпада Ісуса Хрыста й Багародзіцы, якое сьпяваецца на ютрані на сьвятах перад дабравесьцем і на дзявятай песьні канона.

**ПРАСЛАЎЛЕНЬНЕ 2.** - праслаўленьне, песьня на ютрані, што сьпяваецца пасьля канона. Выбраныя вершы з 134/135 і 135/136 псальмоў.

**ПРАСТОЛ 1.** - стол, аналой, які стаіць пасярэдзіне алтара, пры якім служыцца Сьв. Літургія і на якім знаходзіцца ахвярасховішча, Сьв. Дабравесьць і Сьв. Антымінс.

**ПРАСТОЛ 2.** - у царкоўна-славянскай мове азначае трон. Трон Госпада нашага Ісуса Хрыста, бо на ім знаходзіцца Сам Госпад наш Ісус Хрыстос. **ТРОН.**

**ПРАСЬВІЦЕР** (Гр.) - па сану старэйшы сьвятар.

**ПРАТАДЫЯКАН** - глядзі **АРХІДЫЯКАН.**

**ПРАТАПРАСВІЦЕР** - старэйшы па сану за прасьвіцера ярэй.

**ПРАТАЯРЭЙ** (Гр.) - сан вышэйшы за ярэя.

**ПРАЎДЗІВЫ** - у адносінах да навукі Хрыстовай. Глядзі **ВЕРНЫ.**

**ПРАЎНАЯ ЦАРКВА** - царква, якую ачольвае ярархія, што мае апостальскае пераемства й вызнана ўсімі праўнымі Цэрквамі. Бывае, што не адразу праўныя цэрквы вызнаюцца іншымі цэрквамі. Прыкладна - Расейская Маскоўская Царква была вызнана праўнай царквою пасьля 140 гадоў ад свайго агалошаньня самастойнай (5 сьнежня 1448 - 10 студзеня 1589).

**ПРАЎНЫ** - прыметнік, які вызначае праўнасьць, легальнасьць што- альбо чаго-небудзь. **КАНАНІЧНЫ.**

**ПРАЎНЫ ЯПІСКАП** - япіскап, які мае бесьперарыўную хіратонію ад сьвятых апосталаў.

**ПРАЧЫСТАЯ** - глядзі **НАРАДЖЭНЬНЕ БАГАРОДЗІЦЫ.**

**ПРОВАДЫ** - глядзі **ПРАВАДНАЯ НЯДЗЕЛЯ.**

**ПРОМЫСЕЛ БОЖЫ** - апекаваньне, нагляд, утрыманьне. **ПРАДБАЧАНЬНЕ**

**ПРОПАВЕДЗЬ** - глядзі **КАЗАНЬ.**



**ПРОСКУРА** - хлеб для рыхтаваньня Сьв. Агнца на праскамідыі.

**ПРОСКУРКА** - тое самае, што **ПРОСКУРА.**

**ПРОСЬБА** - тое самае, што **МАЛІТВА.**

**ПРЫКАЗІ** - кніга Прыказяў Саламонавых Старога Запавету, Сьв. Бібліі. Апавяданьне пра падзеі, што адбыліся, але ў форме апавяданьня, як прыклад павучаньня. **ПРЫПОВЕСЬЦІ.**

**ПРЫКЛАНІЦЬ ГАЛАВУ** - тое самае, што **СЬХІЛІЦЬ ГАЛАВУ.**

**ПРЫНЯСЕНЬНЕ** - глядзі **АХВЯРАВАНЬНЕ.**

**ПРЫПОВЕСЬЦІ** - глядзі **ПРЫКАЗІ.**

**ПРЫПОВЕСЬЦЬ** - апавяданьне пра падзеі, што адбыліся, але ў форме апавяданьня, як прыклад навукі.

**ПРЫРАЧЭНЬНЕ** - глядзі **ПРЫСЯГА.**

**ПРЫСЛУЖНІК** - мужчынскага роду асоба, якая памагае ярэю пры багаслужбах; падае кадзіла, носіць сьвечку, падае ваду ў свой час.

**ПРЫСЛУЖНІЦКІ СЬЦІХАР** - тое самае, што й паддыяканскі сьціхар. Прыслужнікі не надзяваюць пояса.

**ПРЫСЯГА** - прысяга, што бярэцца ад кожнага дыякана, ярэя і япіскапа пры рукапалажэньні іх, што яны будуць сумленна выконваць свой сьвятарскі абавязак ды будуць пільна датрымоўвацца царкоўных правілаў. **ПРЫРАЧЭНЬНЕ.**

**ПРЫТВОР** - сенцы, што знаходзяцца пры ўваходзе з захаду ў сьвятыню.

**ПРЫЧАСЬНІК 1** - выбраны верш з псальма, які сьпяваецца падчас прычашчаньня сьвятарства і вернікаў.

**ПРЫЧАСЬНІК 2** - той, хто прыймае (прычашчаецца) сьвятое цела й кроў Госпада нашага Ісуса Хрыста.

**ПРЫЧАСЬНІЦА** - адпаведнік жаночага роду да **ПРЫЧАСЬНІК 2.**

**ПРЫЧАСЬЦЕ** - глядзі **СЬВЯТОЕ ПРЫЧАСЬЦЕ.**

**ПРЫЧАСЬЦЕ ХВОРЫХ** - асаблівы абрад прычашчаньня хворых удома і ў шпіталях.

**ПСАЛОМ** (Габр.) - габрэйскае слова азначае **ПЕСЬНЯ.**

**ПСАЛОМШЧЫК** - сьпявар, асоба, якая некалі сьпявала толькі псальмы, а цяпер зьяўляецца дзяком і кіраўнічым хору. **ДЗЯК.**

**ПСАЛТЫР** (Габр.) - кніга песьняў (псальмоў) Старога Запавету.

**ПУСТЭЛЬНІК** - асоба, якая адышла ад гэтага сьвету на асаматнёнае жыцьцё ціцьшыні й малітвы.

**ПЯТЫ ЎСЯЛЕНСКІ САБОР** - адбыўся ў Канстантынопалі, у 553 г., пры Канстантынопальскім Патрыярху Міна і на ім прысуынічала 165 япіскапаў. Сабор ніякіх правілаў не прыняў, а толькі зацьвердзіў (Халдакійскі) **ЧАЦЬВЕРТЫ ЎСЯЛЕНСКІ САБОР.**

**ПЯЦІДЗЯСЯТНІЦА** - глядзі **СЁМУХА.**

**ПЯЧАТКА 1** - пячатка, што прыстаўляецца да дакуманту на паперы.

**ПЯЧАТКА 2** - пячатка, што выціскаецца на проскурцы зьверху зь літарамі **IC XP HI KA.**

**ПЯЧАТКА 3** - знак крыжа зроблены архірэем ці ярэем рукою пры дабраславеньні.

**ПЯЧАТКА 4.** - знак крыжа, які вернікі кладуць на сябе тады, як хрысьцяцца.

**ПЯЧАЦЬ** - глядзі **ПЯЧАТКА.**



# Р

**РАДА БАПЦ** - галоўная управа Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, якая выбіраецца на Саборы БАПЦ.

**РАДНЫ РАДЫ БАПЦ** - асоба выбраная ў Раду БАПЦ і зьяўляецца сябрам Рады БАПЦ.

**РАДНЫ ПАРАФІЯЛЬНАЙ РАДЫ** - асоба выбраная ў Парафіяльную Раду й зьяўляецца сябрам Парафіяльный Рады.

**РАЗРАШЭНЬНЕ** - глядзі **ВЫБАЧЭНЬНЕ ГРАХОЎ.**

**РАЗЬДЗЕЛ** - галоўны падзел адной кніжкі Бібліі на разьдзелы.

**РАЙ** - месца, дзе першыя людзі Адам і Эва жылі. Месца шчасьлівага й радаснага жыцьця ў прысутнасьці Божага зьзяньня, дзе душы ўсіх справядлівых знаходзяцца.

**РАЙСКІЯ ДЗЬВЕРЫ** - дзьверы, якія знаходзяцца пасярэдзіне іканастаса і якія адчыняюцца ў часе багаслужбы. Праз райскія дзьверы маюць права ўваходзіць і выходзіць толькі сьвятарства, а некалі й каралі, таму яны, яшчэ завуцца **ЦАРСКІЯ ДЗЬВЕРЫ** (Расея), **КАРАЛЕЎСКІЯ ДЗЬВЕРЫ.**

**РАКА** (Л.) - arca, скрыня, дамавіна, труна у якой перахоўваюцца мошчы сьвятых.

**РАНЕЙ АСЬВЯЧАНАЯ АХВЯРА** - глядзі **РАНЕЙ АСЬВЯЧАНЫ АГНЕЦ.**

**РАНЕЙ АСЬВЯЧАНЫ АГНЕЦ** - раней нарыхтаваны і асьвячаны на літургіі Яна Залатавуснага альбо Васіля

Валікага для Літургіі Раней Асьвячанай Ахвяры Рыгора Дваяслова.

**РАПІДА** (Гр.) - глядзі **ВЕЕР.**

**РАСА** (Ц.-сл.) - даўгое чорнае адзеньне, якое апранае сьвятарства паверх падрасьніка.

**РАСПАРАДЖЭНЬНЕ** - тое самае, што **ЗАГАД.**

**РАТАЎНІК** - адносіцца да Госпада Ісуса Хрыста. **ЗБАЎЦА, ВЫЗВАЛІЦЕЛЬ.**

**РАТУНАК** - звальненьне душы з грэху і быць прысутны й вечна аглядаць славу Божую на небе. **ВЫЗВАЛЕНЬНЕ, ЗБАЎЛЕНЬНЕ, ЗВАЛЬНЕНЬНЕ.**

**РОЎНАЯАПОСТАЛУ** - асоба жаночага роду у адносінах да **РОЎНЫАПОСТАЛУ.**

**РОЎНЫАПОСТАЛУ** - тытул сьвятога, якому даецца за наверненьне многіх на праваслаўную веру сваей працай і прыкладным сваім жыцьцём.

**РОЎНААПОСТАЛЬНЫ** - тое, што аносіцца да **РОЎНЫАПОСТАЛУ.**

**РУКАПАЛАЖЭНЬНЕ** - рукапалажэньне ёсьць адно зь сямі Таінства. Абрад рукапалажэньня ў сан дыякана, ярэя, япіскапа. У сан дыякана і ярэя рукапалагае адзін япіскап. У сан япіскапа рукапалагаюць тры альбо болей япіскапаў. **ХІРАТОНІЯ, ВЫСЬВЯЧЭНЬНЕ # 1.**

**РУХОМЫЯ СЬВЯТЫ** - сьвяты, якія ня маюць за сабой даты, вызначанага дня, а залежныя ад Вялікадня.

**РЫЗА** - верхняе адзеньне, якое ярэй апранае на багаслужбы. **ФЕЛОН.**

**РЫЗЬНІЦА** - пакой пры алтары, дзе перахоўваюцца рызы.

**РЫМА-КАТАЛІЦКАЯ ЦАРКВА** - царква латынскага абраду, якая самавольна адарвалася ад Праваслаўнай



Царквы і якая вызнае неправаслаўны догмат філіокве й непамыльнасьць папы рымскага.

**РЫМА-КАТАЛІЦКІ КРЫЖ** - на якім укрыжаваньне Ісуса Хрыста паказана заложаныя стопы адна на адну й прыбіты адным цьвякам.

**РЫМСКІ ПАПА** - архірэй, які ачольвае Рыма-Каталіцкую Царкву. **РЫМСКІ ПАТРЫЯРХ.**

**РЫМСКІ ПАТРЫЯРХ** - глядзі **РЫМСКІ ПАПА.**

**РЭЦЫТАЦЫЯ** - напоў сьпяванае чытаньне, як апостала, дабравесьці ці парэміі.

## С

**САБОР** (Ц.-сл.) - сход, збор людзей.

**САБОРНАЕ ПАСЛАНЬНЕ** - архіпастырскі ліст падпісаны многімі япіскапамі. **САБОРНЫ ЛІСТ.**

**САБОРНЫ ЛІСТ** - глядзі **САБОРНАЕ ПАСЛАНЬНЕ.**

**САБОР ЯПІСКАПАЎ** - глядзі **НАРАДА ЯПІСКАПАЎ.**

**САКОС** - сакос, верхняе адзеньне, якое архірэй апранае на багаслужбы.

**САЛЕЯ** - на дзьве ці тры ступенькі падвышэньне на два ці тры метры шырынёй перад іканастасам.

**САМАВІТЫ** - паважны, салідны; поўны хараства, прыгожасьці, самабытнасьці. **ВЫСАКАРОДНЫ, ШЛЯХОТНЫ.**

**САМАСТОЙНАЯ ЦАРКВА** - глядзі **АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ЦАРКВА.**

**САН** (Тат.) - азначае паважаны, ступень пашаны, ступен улады.

**САРДАКІЙСКІ МЯСЦОВЫ САБОР** - адбыўся ў Сардакіі ў 347 г., і на ім прысутнічала 376 япіскапаў, і яны выпрацавалі й прынялі 20 првілаў.

**СЕДМІЧНЫ КРУГ БАГАСЛУЖБАЎ** - глядзі **ТЫДНЁВЫ КРУГ БАГАСЛУЖБАЎ.**

**СЕМІНАРЫЯ** - сярэдняя адукацыйная інстытуцыя навучаньня багаведы. **ДЫХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ.**

**СЁМУХА** - сьвята Сьвятой Тройцы, якое сьвяткуецца пяцьдзясятага дня пасьля Валікадня і яно належыць да рухомых сьвятаў. **ПЯЦІДЗЯСЯТНІЦА, СЬВЯТАЯ ТРОЙЦА.**

**СЁМЫ ЎСЯЛЕНСКІ САБОР** - адбыўся ў Нікеі ў 783-788 гг., і на ім прысутнічала 367 япіскапаў. Спачатку было 350 япіс-капаў, а потым далучылася яшчэ 17 былых іканаборцаў, яны выпрацавалі й прынялі 22 правілы.

**СКАРОМНАЯ ЕЖА** - ежа, яда, якая царквою недазволена есьці ў посныя дні. Да скаромнай ежы належаць; мяса, мясныя вырабы, малако, малочныя вырабы, яйкі. **СКАРОМНАЯ ЯДА.**

**СКАРОМНАЯ ЯДА** - глядзі **СКАРОМНАЯ ЕЖА.**

**СКІФ** - малога разьмеру манастыр, які падлягае большаму манастыру, філія.

**СКРЫЖАЛІ 1** - дзьве каменныя дошкі, на якіх выпісаны дзесяць Божых запаветаў, і дадзеныя Богам Майсею на гары Сынай.

**СКРЫЖАЛІ 2** - скрыжалямі называюцца дзьве квадратныя аксамітныя нашыўкі сьпераду пад шыяй на архірэйскай і архімандрыцкай маньціі.

**СКУФІЯ** - шапка, падобная на капіцу ці стага, і яна япіскапам надаецца, як нагарода, ярэю.



**СЛОВА** - сьвяты дабравесьнік апостал Ян кажа: «На пачатку было Слова, і Слова было з Богам, і Слова было Бог». Тут сьв. апостал мае на меце другую асобу Сьвятой Тройцы «Бога Сына», Госпада нашага Ісуса Хрыста. Слова - Сын Божы, Ісус Хрыстос.

**СЛУЖБОЎНІК** - кніга, у якой зьмешчаны ўсе багаслужбы дзённага круга, для сьвяшчэннаслужыцелей.

**СПАВЕДНІК 1** - сьвятар, які спавядае, слухае вернікаў тых, хто спавядаецца.

**СПАВЕДНІК 2** - асоба, якая спавядаецца.

**СПАГАДЛІВЫ** - глядзі **ДОБРЫ.**

**СПОВЕДЗЬ** - споведзь адно зь сямі Сьв. Таінстваў. Пабожнае выяўленьне грахоў, прызнацца да свае віны. **КАЯНЬНЕ.**

**СТАРАСТА** - выбраная агульным сходам парафіі альбо назначана кіраўнічым парафіі сьвецкая асоба, залежна ад прынятага звычаю парафіяй, і гэтая асоба даглядае за сьвятыняй, каб было чыста, былі сьвечкі і калі трэба заступае прыслужніка сьвятару пры багаслужбах.

**СТАРШЫНЯ** - выбраная парафіяльнай радай асоба, якая ачольвае Парафіяльную Раду ў парафіі. — Недаход 2

**СТАРЫ ЗАПАВЕТ** - першая частка біблії, якая пачынаецца кнігай **Быцьцё** й канчаецца кнігай **Малаха**. Усіх ёсьць 39 кнігаў праўных.

**СТАРЫ КАЛЯНДАР** - стары каляндар альбо юльянскі каляндар быў уведзены да ўжытку за кесара Юліюса. А царквою прыняты ў 425 г.Праваслаўныя цэрквы Грэцкая й Фінская перайшлі на новы каляндар. А ўсе іншыя праваслаўныя цэрквы засталіся пры старым каляндару. **СТАРЫ СТЫЛЬ.**

**СТАРЫ СТЫЛЬ** - у царкоўнай мове гэтак завецца стары каляндар.

**СТАЎРАПІГІЯ 1** (Гр.) - стаўленьне крыжа на месца, дзе мае быць сьвяты прастол.

**СТАЎРАПІГІЯ 2** - азначае манастыр, які падуладны Першаму Ярарху ці самаму Патрыярху.

**СТАЎРАПІГІЯЛЬНЫ** - падуладны царкоўнай уладзе, незалежны ад япархіяльнага кіруючага япіскапа.

**СУСЬВЕТНЫ** - усёабыймаючы, усяленскі. Гэта азначае, што праваслаўная царква ёсьць усяленская ўсёабыймаючая царква Хрыстовая на ўвесь час, усім людзям на вякі вечныя. **МАРАПЛАЎ РАТУНКУ, УСЯЛЕНСКІ.**

**СЫБОТНЯЯ ПАЎНОЧНІЦА** - паўночніца, якая служыцца толькі ў сыботу.

**СЫМБАЛЬ** (Гр.) - знак, сьпіс знакаў. Вылажэньне, догмату веры. **СЫМБАЛЬ ВЕРЫ.**

**СЫМБАЛЬ ВЕРЫ** - глядзі **СЫМБАЛЬ.**

**СЫЁН 1** (Габр.) - гара ў Палястыне, на якой Майсей атрымаў ад Бога скрыжалі дзесяць запаветаў (прыказаньняў). На гэтай гары была маемасьць караля Давіда.

**СЫЁН 2** - глядзі **ГАРМОН.**

**СЫН БОЖЫ** - другая асоба Сьвятой Тройцы, роўны Богу Айцу і Богу Духу Сьвятому.

**СЫНОД** (Гр.) - сходка, сустрэча, зборка.

**СЬВЕТЛЫ ТЫДЗЕНЬ** - тыдзень, што адразу пасьля Вялікадня, і служацца ўсе службы вялікодныя праз увесь тыдзень. **ВЯЛІКОДНЫ ТЫДЗЕНЬ.**

**СЬВЕЦКІ ШЛЮБ** - шлюб, які выкананы сьвецкай асобай, назначанай сьвецкай уладай.



**СЬВЕЧКІ** - сьвечкі ставяцца у алтары й перад сьвятымі абразамі. Сьвечкі сымбалізуюць глыбокую пашану да Ратаўніка нашага, Божай Маці альбо сьвятога. Сьвечкі у алтары на сямісьвечніку за прастолам сымбалізуюць Самога Хрыста, Сьвятло Сьвету. Набажныя вернікі дабраахвотна закупляюць сьвечкі на сямісьвечнік, як ахвяру Самому Госпаду Ісусу Хрысту.

**СЬВЯТАРСТВА 1** - адно зь сямі Тайнст, хіратонія.

**СЬВЯТАРСТВА 2** - зборны назоў рукапалажаных (васьвячаных) асоб (япіскапы, ярэі, дыяканы), у адрозьненьне ад сьвецкіх людзей.

**СЬВЯТАТАЦТВА** (Ц.-сл.) - кража сьвятых рэчаў, прызначаных служыць багаслужбы.

**СЬВЯТАЯ ВАДА** - асьвячаная ярэем ці архірэем вада, якая вернікамі ўжываецца да піцьця й дабраслаўленьня асоб альбо рэчаў.

**СЬВЯТАЯ ЕЎХАРЫСТЫЯ** - тое самае, што **ЕЎХАРЫСТЫЯ.**

**СЬВЯТАЯ ЛІТУРГІЯ РАНЕЙ АСЬВЯЧАНАЙ АХВЯРЫ** - літургія сьвятога айца Рыгора Дваяслова. Яна служыцца ў посныя дні, калі не дазволена служыць іншыя літургіі і яна пачынаецца вячорняй.

**СЬВЯТАЯ ЛІТУРГІЯ СЬВЯТОГА АЙЦА НАШАГА ВАСІЛЯ ВЯЛІКАГА** - Архіяпіскапа Кесарыі Кападакійскай. Яна служыцца дзесяць разы на год.

**СЬВЯТАЯ ЛІТУРГІЯ СЬВЯТОГА АЙЦА НАШАГА** ЯКУБА - сьвятая літургія сьв. ап. Якуба служыцца дваццаць трэцяга кастрычніка ў дзень яго ўспаміну, але толькі Ерусалімскай, Кіпрскай ды яшчэ некаторымі Цэрквамі.

**СЬВЯТАЯ ЛІТУРГІЯ СЬВЯТОГА АЙЦА НАШАГА ЯНА ЗАЛАТАВУСНАГА** - літургія сьвятога Яна Залавуснага служыцца ўва ўсе дні, праз увесь год, у якія не прызначана служыць іншыя літургіі.

**СЬВЯТАЯ ТРОЙЦА** - Бог у трох асобах, роўных у Сабе; Бог Айцец, Бог Сын, Бог Дух Сьвяты.

**СЬВЯТОГА ЯНА** - глядзі **НАРАДЖЭНЬНЕ ЯНА ХРЫСЬЦІЦЕЛЯ.**

**СЬВЯТОЕ ПІСЬМО** - глядзі **БІБЛІЯ.**

**СЬВЯТОЕ ПРЫЧАСЬЦЕ** Таінства Еўхарыстыі. У часе сьв. літургіі, калі ярэй ці архірэй пасьля малітвы за спасланьне Сьвятога Духа на сьв. хлеб і віно кажа: «І ствары хлеб гэты каштоўным целам Хрыста Твайго» і «А што ў чары гэтай каштоўнай крывёй Хрыста Твайго», сьв. хлеб і віно ператвараецца ў праўдзівае Цела й Кроў Госпада нашага Ісуса Хрыста.

**СЬВЯТОЙ ПРАМУДРАСЬЦІ МЯСЦОВЫ САБОР** - адбыўся ў Канстантынопалі ў сьвятыні Сьв. Прамудрасьці (Сафіі) у 878 г., пры Канстантынопальскім Патрыярху Фоцію, і на ім прысутнічала 383 япіскапы, яны выпрацавалі й прынялі 3 правілы.

**СЬВЯТОЧНАЯ МІНЕЯ** - кніга, якая месьціць у сабе ўзоры багаслужбы выбраным сьвятам.

**СЬВЯТЫ** - азначае блішчэць, зьзяць. Імя Божае.

**СЬВЯТЫ АБРАЗ** - малюнак прызнанай царквою сьвятой асобы. **ІКОНА.**

**СЬВЯТЫ ДУХ** - трэцяя асоба Сьвятой Тройцы, роўная Айцу і Сыну.

**СЬВЯТЫ СЫНОД** - рада япіскапаў, управа сабору япіскапаў.



**СЬВЯТЫНЯ** (Бел.) - будынак для маленьняў, багаслужбаў.

**СЬВЯТЫХ АЙЦОЎ ПРАВІЛЫ** - глядзі **ПРАВІЛЫ СЬВЯТЫХ АЙЦОЎ.**

**СЬВЯЦІЛЕН** - сьціхіра, якая чытаецца на ютрані ў канцы канона. У даўніну стараліся так, каб прыходзілася пачынаць чытаць яго на сьвітанку. Ад гэтага і завецца ён сьвяцілен, ад слова сьвятло.

**СЬВЯЦІЦЕЛЬ** (Ц.-сл.) - япіскап. Пераважна адносіцца да паважанага вернікамі ў пажылых гадох япіскапа.

**СЬВЯШЧЭННАСЛУЖЫЦЕЛЬ** (Ц.-сл.) - асоба, ярэй, япіскап, якая мае права служыць багаслыжбу. Дыякан ня ёсьць сьвяшчэннаслужыцелем, а толькі памочнік ярэю ці архірэю.

**СЬМЕРЦЬ** - зьява, калі душа чалавека адлучаецца ад цела. Душа, як несмяротная, застаецца надалей жывой і знахо-дзіцца ў небе, а цела застаецца пахаванае ў зямлю да часу яго ўваскрасеньня, ажыўленьня.

**СЬПЕЎ** - норма пры тонацыі сьпеву (мелёдыі, тону). Ёсьць восем сьпеваў трапароў, сьціхіраў, канонаў.

**СЬХІЗМА** - падзел, адступніцтва ад праваслаўнай веры.

**СЬХІЗМАТЫК** - сьхізматыкам ёсьць той, хто адступіўся ад праўдзівай праваслаўнай веры. **АДСТУПНІК, АПОСТАТА.**

**СЬХІЛЕНЬНЕ ГАЛАВЫ** - дзея прыкланіць галаву.

**СЬХІЛІЦЬ ГАЛАВУ** - глядзі **ПРЫКЛАНІЦЬ ГАЛАВУ.**

**СЬХІМАНАХ** (Ц.-сл.) - манах, які адыйшоў ад гэтага сьвету й праводзіць сваё жыцьцё ў маўклівасьці й малітве. **СЬХІМНІХ.**

**СЬХІМНІХ** - глядзі **СЬХІМАНАХ.**

**СЬЦІХАР** - верхняе адзеньне, якое апранаюць служачыя на багаслужбы дыяканы, прыслужнікі.

**СЬЦІХІРА** (Гр.) - грэцкае слова, якое азначае: «Тое, што напісана вершамі», вершаваньне. У царкоўным ужытку пад сьціхірамі разумеюцца песьні, якія па зьместу прытарнаваныя да сьвята ці сьвятога, што сьвяткуецца.

**СЯДАЛЕН** - сьціхіра, у часе чытаньня яе манахам можна сядзець.

**СЯМІСЬВЕЧНІК** - пасьвечнік, які мае сем гнёздаў для сьвечак і стаіць за прастолам, а за ім стаіць запрастольны крыж.

**СЯРДЭЧНЫ** - глядзі **ДОБРЫ**.

# Т

**ТАІНСТВА** - у праваслаўнай царкве ёсьць сем таінстваў: Хрост, Мірапамазаньне, Споведзь, Прычасьце, Сьвятарства, Шлюб і Алеепамазаньне.

**ТАЙНАЯ ВЯЧЭРА** - вячэра, якую Госпад наш Ісус Хрыстос меў са Сваімі вучнямі і апосталамі ў верхнім пакоі у Ерусаліме ў чацьвер ўвечары перад Сваім укрыжаваньнем.

**ТВАРЭНЬНЕ** - Божая дзея, Бог стварыў сьвет зь нічога.

**ТРАДЫЦЫЯ** - выпрабаваныя здавен часоў і засвоены й прызнаны царквою, як правілы, звычаі, нормы паводзін, пагляды, якія пераходзяць з даўных часоў да нашых.

**ТРАПАР** (Гр.) - кароткая песьня, якая перадае зьмест сьвята.

**ТРОН** - крэсла, катэдра. **АРХІРЭЙСКІ ТРОН, ПРАСТОЛ.**



**ТРУЛЬСКІ ЎСЯЛЕНСКІ САБОР** - глядзі **ШОСТЫ ЎСЯЛЕЧСКІ САБОР.**

**ТРУНА** - скрыня зь векам, у якую кладуць целы памерлых для пахаваньня. **ДАМАВІНА.**

**ТРЫЗНА** (Ц.-сл.) - глядзі **ПАМІНКІ.**

**ТРЫКІРЫ** (Гр.) - глядзі **ТРЫСЬВЕЧНІК.**

**ТРЫОДЗЬ** (Гр.) - песьня, трыпесьнік, гэтак называецца кніга, у якой зьмешчаны з трох песьняў канон. Гэтая кніга дзеліцца на дзьве часьці: **ПОСНАЯ ТРЫОДЗЬ й ЦЬВЯТНАЯ ТРЫОДЗЬ.**

**ТРЫПОД** (Гр.) - трыножнік, стол, які мае тры ножкі, і на якім пагане прыносілі ахвяру сваім багам.

**ТРЫСЬВЕЧНІК** - падсьвечнік са трыма сьвечкамі, якім разам з двусьвечнікам архірэй дабраславіць вернікаў. **ТРЫКІРЫ.**

**ТРЫСЬВЯЦЬЦЕ** - гэтак называецца малітва «Сьвяты Божа, Сьвяты Моцны, Сьвяты Несьмяротны, памілуй нас», таму, што яна амаль за кожным разам паўтараецца тройчы.

**ТРЭБНІК** - кніжка, якая месьціць у сабе маленьні трэбаў.

**ТРЭБЫ** - усе маленьні, пры якіх выконваюцца царкоўныя абрады, апрача службаў дзённага круга.

**ТРЭЦІ ЎСЯЛЕНСКІ САБОР** - адбыўся у Афесі ў 431 г., і на ім прысутнічала 200 япіскапаў, яны выпрацавалі й прынялі 8 правілаў.

**ТРЭЦІ ЧАС** - глядзі **ЧАС.**

**ТРЭЦЯЯ АСОБА СЬВЯТОЙ ТРОЙЦЫ** - Бог Дух Сьвяты роўны Богу Айцу й Богу Сыну.

**ТЫДЗЕНЬ ПАКУТАЎ ХРЫСТОВЫХ** - тыдзень ад Вербнай Нядзелі да Вялікадня.

**ТЫДНЁВЫ КРУГ БАГАСЛУЖБАЎ** - багаслужбы, які пачынаюцца ў панядзелак і канчаюцца ў нядзелю. **СЕДМІЧНЫ КРУГ БАГАСЛУЖБАЎ.**

**ТЫПІКОН** (Гр.) - тое самае, што **УЗОР.**

**ТЭАЛЁГІЯ** (Гр.) - тое самае, што **БАГАВЕДА.**

**ТЭТРАПОД** (Гр.) - столік, які мае чатыры ножкі.

# У

**УВАСКРАСЕНЬНЕ** (Ц.-сл.) - ажыўленьне памерлага. Паўстаньне зь мёртвых Хрыста.

**УВАСКРОС** - азначае, што быў памерлы і **АЖЫЎ.**

**УВАХОД ГОСПАДА НАШАГА ІСУСА ХРЫСТА У ЕРУСАЛІМ** - тое самае, што **ВЕРБНІЦА.**

**УВАЦАРКОЎЛЕНЬНЕ** - глядзі **УВОДЗІНЫ.**

**УВЕСЬ ЧАС ДЗЕВА** - гэтак называецца Багародзіца, бо Яна й пасьля нараджэньня Бога Слова засталася непарушанай.

**УВОДЗІНЫ** - пасьля народзін дзіцяці й звычайна пасьля хросту, маці прыносіць дзіця ў сьвятыню для ўвацаркоўленьня. Маці прыходзіць зь дзяцём у сьвятыню перад пачаткам Сьв. Літургіі. Ярэй выконвае абрад уводзін і пасьля гэтага абраду маці мае права быць прысутнай на багаслужбе Сьв. Літургіі й прычасьціць дзіця.

**УВЯДЗЕНЬНЕ НАЙСЬВЯЦЕЙШАЙ ДЗЕВЫ МАРЫІ Ў СЬВЯТЫНЮ** - сьвята, якое сьвяткуецца 21 лістапада. **УВЯДЗЕНЬНЕ.**



**УВЯДЗЕНЬНЕ** - тое самае, што **ЎВЯДЗЕНЬНЕ НАЙСЬВАЦЕЙШАЙ ДЗЕВЫ МАРЫІ Ў СЬВЯТЫНЮ.**

**УГОДНІК** (Ц.-сл.) - заслужаны ў Бога вернік. Ступень сьвятасьці.

**УЗОР** - парадак, схема, паводле якога выконваюцца багаслужбы й трэбы. **УСТАЎ, ТЫПІКОН.**

**УЗЬНЯСЕНЬНЕ** - глядзі **ЎШЭСЬЦЕ.**

**УЛАДАР** - гаспадар, уласьнік, пан, кароль. Адносіцца да Бога.

**УЛАДАРКА** - гаспадыня, уласьніца, пані, каралева. Адносіцца да Багародзіцы.

**УЛАДЫКА** - гаспадар. Адносіцца да япіскапа.

**УСТАЎ** - тое самае, што **ЎЗОР.**

**УСХОДНІ АБРАД** - глядзі **БІЗАНТЫЙСКІ АБРАД.**

**УСЬПЕНЬНЕ** - сьвята, якое сьвяткуецца 15 жніўня. **ПЕРШАЯ ГАСПАЖА, УСЬПЕНЬНЕ БАГАРОДЗІЦЫ.**

**УСЯЛЕНСКІ** - глядзі **СУСЬВЕТНЫ.**

**УСЯЛЕНСКІ САБОР** - збор усіх япіскапаў Усяленскай Хрыстовай Праваслаўнай Царквы.

**УСЯЛЕНСКІ ПАТРЫЯРХ** - вызнаны ўсёй Праваслаўнаю Царквою, як першы з паміж роўных усіх патрыярхаў. Ён вызнаецца, як аўтарытэт без юрысдычнага права над іншымі патрыярхамі ці аўтакефальнымі цэрквамі. Ён мае толькі ганаровае пяршынства.

**УСЯЛЕНСКІЯ ПРАВІЛЫ** - глядзі **УСЯЛЕНСКІЯ ЦАРКОЎНЫЯ ПРАВІЛЫ, КАНОНЫ.**

**УСЯЛЕНСКІЯ ЦАРКОЎНЫЯ ПРАВІЛЫ** - **а)** апостальскія правілы; **б)** сямі ўсяленскіх сабораў правілы; **в)** дзесяці мясцовых сабораў; **г)** сьвятых айцоў правілы. Усіх разам ёсьць 862 правілы.

**УСЯНОЧНАЯ ЧУЙНАСЬЦЬ** - усяночнае маленьне, дзе спалучаны вячорня, ютраня і дадаецца ліція з дабраславеньнем хлябоў.

**УСЯНОЧНЯ** - багаслуба, у якой спалучаны вячорня зь ютрняй. Некалі яна служылася праз усю ноч, таму, яна завецца ўсяночняй.

**УЦЕЛАЎЛЕНЬНЕ** - увайсьці ў цела. Сын Божы, як Бог прыняў людзкое цела на Сябе і стаўся Чалавекам, праз нараджэньне зь Дзевы Марыі. У Сьв. Дабравесьці сказана, анёл сказаў Марыі: «Дух Сьвяты зыйдзе на Цябе, і моц Найвышэйшага ахіне Цябе; таму й народжанае сьвятое назавецца Сынам Божым».

**УШЭСЬЦЕ** (Бел.) - узьнясеньне Госпада нашага Ісуса Хрыста ў неба на саракавы дзень пасьля Свайго ўваскрасеньня. **УЗЬНЯСЕНЬНЕ.**

## Ф

**ФАНАР** - частка гораду, дзяльніца ў Канстантынопалі, у якім знаходзіцца галоўная кватэра (Сынод) Ўсяленскага Патрыярхату.

**ФЕЛОН** - глядзі **РЫЗА.**

**ФІЛІОКВЕ** - латынскае слова **FILIOQUE.** Фраза ў Сымбале Веры, якая была прынята на Нікейскім Саборы. Там было сказана пра Духа Сьвятога: «Хто прыходзіць (сходзіць) ад Айца». Потым Рыма-Каталіцкая Царква дадала сюды й **Сына**: «Хто прыходзіць (зыходзіць) ад Айца й Сына». Гэта ёсьць адна з розніцаў паміж праўдзівай, праваслаўнай верай і



рыма-каталіцкай. Латынскае слова **Filio** - сын, ад гэтага паходзіць слова Філіокве. Тут парушаецца праваслаўны догмат Сьвятой Тройцы. Рыма-каталіцкая срась.

## Х

**ХАЛКЕДОНСКІ ЎСЯЛЕНСКІ САБОР** - глядзі **ЧАЦЬВЕРТЫ ЎСЯЛЕНСКІ САБОР.**

**ХАРУГВЫ** - царкоўныя сьцягі, на якіх намаляваныя абразы сьвятых, пераважна Хрыстовы ці Багародзіцы. Іх носяць наперадзе паходаў ці абыходаў сьвятыні.

**ХЕРУВІМ** (Габр.) - ступень анёла.

**ХЕРУВІМСКАЯ** - глядзі **ХЕРУВІМСКАЯ ПЕСЬНЯ.**

**ХЕРУВІМСКАЯ ПЕСЬНЯ** - песьня, якую сьпяваюць у пачатку галоўнай часткі літургіі, перад вялікім выхадам. Альбо проста **ХЕРУВІМ-СКАЯ.**

**ХІРАТОНІЯ** (Гр.) - рукапалажэньне. Абрад высьвячэньня япіскапа, у якім прыймаюць удзел найменш тры япіскапы альбо болей.

**ХІТРАСЬЦЬ** - зманлівасьць, подступ, здрада, двудушнасьць. Расейскае - ЛУКАВСТВО.

**ХІТРЫ** - здрадлівы. падступны, крывадушны, зманлівы. Расейскае - ЛУКАВЫЙ.

**ХОРЫ** - балкон над дзьвярыма ўваходу з захаду ў сьвятыню, дзе сьпевакі сьпяваюць на багаслужбах.

**ХРОСНАЕ ІМЯ** - дадзенае імя хрышчанаму пры хросьце яго.

**ХРОСНАЯ МАЦІ - глядзі ХРОСНЫЯ БАЦЬКІ.**

**ХРОСНЫ БАЦЬКА** - глядзі **ХРОСНЫЯ БАЦЬКІ.**

**ХРОСНЫЯ БАЦЬКІ** - асобы праваслаўнага веравызнаньня прысутныя пры хросьце дзіцяці. Яны ня толькі сьветкамі хросту, але паручаюцца, што будуць навучаць праўдзівае праваслаўнае веры сваго хрышчоніка, каб ён ведаў праваслаўную веру. У некаторых праваслаўных народаў бяруць толькі аднаго хроснага; жанчыну ці мужчыну.

**ХРОСТ** - адно зь сямі Сьв. Таінстваў. Абрад хрышчэньня асобы.

**ХРОСТ ГОСПАДАВЫ** - глядзі **ВАДОХРЫШЧА.**

**ХРЫСТОВАЯ ДАМАВІНА** - глядзі **ХРЫСТОВАЯ ТРУНА.**

**ХРЫСТОВАЯ ТРУНА** - труна, на якой кладзецца сьв. плашчаніца пасьля вынасу яе ў пятніцу на тыдні пакутаў Хрыстовых. **ХРЫСТОВАЯ ДАМАВІНА.**

**ХРЫСТОВЫ** - усё тое, што адносіцца да Хрыста.

**ХРЫСТОВЫ ВЛЯЎНІК** - асоба, якая верыць у Госпада й Ратаўніка нашага Ісуса Хрыста й належыць да Хрыстовай Праваслаўнай Царквы ды вядзе барацьбу з грэхам і са злом, бароніць праўдзівую праваслаўную веру й царкву.

**ХРЫСТОС** (Гр.) - памазанец, імя Госпада.

**ХРЫСЬЦІЛЬНІЦА** - глядзі **КУПАЛЬНЯ.**

**ХРЫСЬЦІЦЦА** - асоба, злажыўшы тры пальцы правай рукі (вялікі, указальны й сярэдні), а два (бязыменны і мезены) сагнуўшы, робіць знак крыжа на сабе, кажучы: «У імя Айца» і трыма пальцамі датыкаецца да лба, і «Сына» - да грудзей, «І Сьвятога» - да правага пляча, «Духа» - да левага пляча.

**ХРЫСЬЦІЯНІН** - той, хто верыць у Хрыста й быў ахрышчаны, і прыймае навуку Хрыстовую.



**ХРЫШЧЭНЬНЕ** - рэлігійны абрад, якім праводзіцца хрост асобы праз купаньне ў вадзе.

## Ц

**ЦАЛАВАНЬНЕ** - дзея цалаваньня крыжа, абразоў, дабравесьці.

**ЦАЛУНАК МІРУ** - знак братэрскае любасьці, калі ў час сьв. літургіі саслужачыя перад сьпяваньнем «Верую», цалуюць адзін аднаго ў пляча.

**ЦАРКВА** (Ц.-сл.) - збор людзей, аб'яднаньне вернікаў пад япіскапскім пвадырствам.

**ЦАРКОЎНА ВАЖНЫ** - тое самае, што **ЦАРКОЎНА ПРАЎНЫ.**

**ЦАРКОЎНА ПРАЎНЫ** - вызнаны царквою.

**ЦАРКОЎНАЕ** - усё тое, што адносіцца да царквы.

**ЦАРКОЎНАЯ МОВА** - мова, якая ўжываецца на багаслужбах і казаньнях у царкве. Мова кожнага народу, як мова найбольш яму зразумела, мае быць мовай яго царквы.

**ЦАРКОЎНАЯ РАДА** - глядзі **РАДА БАПЦ.**

**ЦАРКОЎНЫ КАЛЯНДАР** - каляндар у якім паказаны дні сьвятаў і сьвятых.

**ЦАРКОЎНЫ СТАТУТ** - царкоўныя правілы прынятыя на саборы царквы, паводле якіх кіруецца адміністрацыя царквы, і якія забавязваюць кожнага; сьвятарства і міран.

**ЦАРКОЎНЫ СУД** - сьвецкую асобу судзіць адзін япіскап, дыякана - тры япіскапы, ярэя - шэсьць япіскапаў, япіскапа - дванаццаць япіскапаў. Судзьдзі - япіскапы, усе яны мюць быць выбраныя вернікамі. Япіскап, які абвінавачвае альбо

абвінавачаны ці спароднены з тымі, што судзяцца, ня можа быць судзьдзёю.

**ЦАРКОЎНЫ ЎЗОР** - глядзі **ЎЗОР**.

**ЦАРКОЎНЫ ШЛЮБ** - царкоўны шлюб ёсьць, калі абрад сужанства дабраславёны царквою й выкананы сьвятаром.

**ЦАРКОЎНЫЯ ЗАПАВЕТЫ** - 1. Наведваць багаслужбы; 2. датрымоўвацца пастоў; 3. прыймаць сьв. прычасьце, наймешш адзін раз на год; 4. намагаць царкве працаю й матарыяльна; 5. не жаніцца ўрачыста ў забароненыя дні.

**ЦАРКОЎНЫЯ КАНОНЫ** - глядзі **ЦАРКОЎНЫЯ ПРАВІЛЫ**.

**ЦАРКОЎНЫЯ ПРАВІЛЫ** - усяленскія правілы, якія выпрацаваны й прыняты ўсяленскімі саборамі, усе правілы мясцовых сабораў і сьвятых айцоў, якія прызнаны ўсяленскімі саборамі і яны забавязваюць кожную праваслаўную царкву. Правілы прынятыя саборамі мясцовых цэркваў, якія забавязваюць толькі тую царкву, што іх прыняла.

**ЦАРСКІЯ ДЗЬВЕРЫ** - глядзі **РАЙСКІЯ ДЗЬВЕРЫ**.

**ЦЕЛАПАЛЕНЬНЕ** - прынашэньне крывавага аброку Богу праз спальваньне жывёлы.

**ЦЕЛА ХРЫСТОВАЕ 1.** - збор вернікаў, царква.

**ЦЕЛА ХРЫСТОВАЕ 2.** Сьв. Прычасьце.

**ЦУД** - звышпрыродная дзея ці здарэньне ўчыненыя з волі Божай. Ісус Хрыстос учыніў многа цудаў будучы на зямлі.

**ЦЬВЯТНАЯ ТРЫОДЗЬ** - другая частка трыодзі, кніга, якая месьціць у сабе збор багаслыжбаў ад Вялікадня да Нядзелі Ўсіх Сьвятых уключна

**ЦЭЛІБАТ** - бязжэнства.

**ЦЭНЗАР** - глядзі **ПРАВЕРШЧЫК**.

**ЦЭРКОВНЫ КОМІТЕТ** - глядзі **ПАРАФІЯЛЬНАЯ РАДА**.



# Ч

**ЧАРА** - пасудзіна ў форме кубка на падстаўцы, у якой у часе літургіі асьвячваецца віно. Ніхто, апрача сьвятарства, ня мае права дакранацца да сьвятой чары.

**ЧАРНІЦА** - гэты наязоў адносіцца да **МАНАШКІ**.

**ЧАС** (Ц.-сл.) - маленьне прызначана на гадзіны:

**ПЕРШЫ ЧАС** - 6-9 гадз.

**ТРЭЦІ ЧАС** - 9-12 гадз.

**ШОСТЫ ЧАС** - 12-15 гадз.

**ДЗЯВЯТЫ ЧАС** - 15-18 гадз.

**ЧАСАСЛОЎ** - кніга, якая месьціць у сабе багаслужбы дзённага круга для дзякоў і малітвы дня. Ёсьць дзьве кнігі: **ВЯЛІКІ ЧАСАСЛОЎ** і **МАЛЫ ЧАСАСЛОЎ**.

**ЧАСТКІ** - малыя частачкі, якія ў часе праскаміды выразаюцца з проскуры й кладуцца на дыскас.

**ЧАЦЬВЕРТЫ ЎСЯЛЕНСКІ САБОР** - сабор адбыўся ў Халкедоне ў 451 г., і на ім прысутнічала 630 япіскапаў, яны выпрацавалі й прыбнялі 30 правілаў.

**ЧОРТ** - тое самае, што і **Д'ЯБАЛ**.

**ЧУЙНАСЬЦЬ** (Бел.) - усяночнае маленьне, бяссоннае трываньне. Расейскае - **бдзеніе**. Глядзі - **УСЯНОЧНАЯ ЧУЙНАСЬЦЬ**.

**ЧЫСЬЦІК** - зельле, якое расьце на сенажаці, вельмі прыгожае і якое дзяўчаты ходзяць на сьвята **Дзявятнік** зьбіраць, сушаць для ўпрыгожваньня каравая на вясельлях.

**ЧЫТАЛЬНІК** (Бел.) - столік, аналой, на якім чытар чытае.

**ЧЫТАР** (Бел.) - япіскапам дабраславёная асоба для чытаньня апостала, часоў, парэмій ці іншае, што належыц чытаць на багаслужбах.

## Ш

**ШАТАН** - тое самае, што **Д'ЯБАЛ.**

**ШЛЮБ** - абрад жанімства, які надае права сужыцьця для мужчыны й жанчыны, якія зьыходзяццэ жыць разам.

**ШЛЯХОТНЫ** - тое самае, што **САМАВІТЫ.**

**ШОСТЫ ЎСЯЛЕНСКІ САБОР** - сабор адбыўся ў трульскім каралеўскім палацы ў 691 г., і на ім прысутнічала 340 япіскапаў, яны выпрацавалі й прынялі 102 правілы.

**ШТАДЗЁННАЯ ВЯЧОРНЯ** - **1.** служыцца ўва ўсе дні году, у якія не прыпадае сьвята з паліялеем альбо з чуйнасьцю. Служыцца таксама на сьвяты з паліялеем (24 лютага) альбо з чуйнасьцю (30 студзеня, у чацьвер масьленіцы), калі гэтыя сьвяты не пападуць сераду масьленіцы. **2.** служыцца ў нядзелю, панядзелак, аўторак і чацьвер Вялікага Посту, бо ў гэтыя дні ня служыцца літургіі зь вячорняй.

**ШТАДЗЁННАЯ ПАЎНОЧНІЦА** - паўночніца, якая служыцца ў кожны дзень апрача нядзелі й сыботы.

## Э

**ЭКЗАПАСТЫЛЯР** (Гр.) - гэтае слова дакладна азначае пасланы, той, каго пасылаюць. Экзапастылярам называецца



трапар, які сьпяваецца альбо чытаецца ў нядзелю і ў сьвяточныя дні на ютрані пасьля канону. У іншыя дні заміж экзапастыляра ў гэтым самім месцы на ютрані чытаюцца тапары, якія завуцца **СЬВЯЦІЛЬНЫ.**

**ЭКЗАРХ** (Гр.) - кіраўнік, начальнік. Назначаны патрыярхам япіскап на асобна выдзеляную адміністрацыйную тэрыторыю царквы, які кіруе ёю ад імя патрыярха.

**ЭПІТЫМІЯ** - пакараньне, якім ярэй ці архірэй карае верніка за непрыстойнае захаване праваслаўнаму хрысьціяніну. Правініўшая асоба можа сама на сябе накладаць эпітымію.

## Ю

**ЮДА** - адзін з дванаццаці апосталаў, які здрадзіў і прадаў свайго Настаўніка Госпада Ісуса Хрыста.

**ЮЛЬЯНСКІ КАЛЯНДАР** - гэты каляндар завецца юльянскім таму, бо быў уведзены да ўжытку за цэсара Юліюса ў 46 г. да нараджэньня Хрыстовага (**Д. Х.**) і быў прыняты хрысьціянскаю царквою ў 425 г. Яшчэ завуць яго **СТАРЫ СТЫЛЬ** альбо **СТАРЫ КАЛЯНДАР.**

**ЮТРАНЯ** - ранішняе маленьне, адна з багаслужбаў дзённага круга. Ёсьць дзьве ютрані: **1. ЮТРАНЯ БЕЗ ПАЛІЯЛЕЯ Й БЕЗ СЛАВАСЛАЎЛЕНЬНЯ. 2. ЮТРАНЯ З ПАЛІЯЛЕЕМ Й ВЯЛІКІМ СЛАВАСЛАЎЛЕНЬНЕМ** альбо **БЕЗ СЛАВАСЛАЎЛЕНЬНЯ.**

**ЮТРАНЯ БЕЗ ПАЛІЯЛЕЯ Й БЕЗ СЛАВАЛАЎЛЕНЬНЯ** - гэтая ютраня служыцца ў дні, у якія няма сьвята з паліялеем ці вялікім славалаўленьнем.

**ЮТРАНЯ З ПАЛІЯЛЕЕМ І ЗЬ ВЯЛІКІМ СЛАВАСЛАЎЛЕНЬНЕМ** альбо толькі з **СЛАВАСЛАЎЛЕНЬНЕМ** - гэтая ютраня служыцца ў сьвгяты з паліялеем ці з вялікім славаслаўленьнем; а таксама ў сыботы тыдняў: масьленіцы, 5-га вялікага посту, вербніцы й пакутаў Хрыстовых.

# Я

**ЯГО СЬВЯТАСЬЦЬ** - тытул патрыярха.

**ЯПАРХІЯ** - складовая правінцыяльная частка у адміністрацыі царквы.

**ЯПІСКАП** (Гр.) - асоба назыральнік, галоўны пастыр у япархіі, які атрымаў апостальскае пераемства, празь хіратонію трыма альбо балей япіскапамі.

**ЯПІСКАПАТ** - зборны назоў япіскапаў.

**ЯПІСКАПСКІ ТРОН** - глядзі **АРХІРЭЙСКІ ТРОН.**

**ЯРАРХІЯ** - вышэйшае сьвятарства, **ЯПІСКАПАТ.**

**ЯРДАН** - глядзі **ВАДОХРЫШЧА.**

## Умоўныя скарачэньні

(Ар.) ..........арабскае
(Бел.) .........беларускае
(Габр.) ........габрэйскае
(Гр.) ..........грэцкае
(Л.) ...........латынскае
(Рас.) .........расейскае

